БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 10 (13542)

2 — 8 сакавіка 1992 года

Цана 1 рубель 50 кап. (па падпісцы — 35 кап.)

Унумары:

"Справа для сапраўдных жанчын". Гутарка са старшынёй Саюза жанчын Беларусі Т.Дудко. 3

"Крыніцы". Пяшчота вершаванага радка. 7

Я сустрэўся з іншапланецянінам... 10

Дзе сустрэць амазонку? На суседняй вуліцы! 12

Тэлеэкран наступнага тыдня. 15

# Вясна. Каханне. Надзея.



## СУЗОР'Е ЖАНЧЫНЫ

Хто звяжа прамень,
разарваны знянацку вар'ятам?
Хто вылечыць сэрца,
прабітае злобай уначы?
Зайздрошчу – бо вам,
на каханне і веру багатым,
Вышэйшы Суддзя
тры жыцці ў адным налічыў.
У першым жыцці –
першых ведаў і слоў асалоду,
Навуку кахання і шчырасці
даў у другім,
А ў трэцім Нябёсны Спадар
абяцаў вам свабоду –
Свабоду дарыць
прыгажосць і святло маладым.
Над чыстай зямлёй,
не запэцканай плямамі злосці,
У двух кроках ад сонца
глядзіць нам у вочы штодзень
Сузор'е Надзеі, Кахання,
Жыцця, Маладосці –
Сузор'е Жанчыны нам шле
таямнічы прамень.

Алесь ПАЛЫНСКІ.

ALFA

## НЕ ЖАДАЙЦЕ ЖАНЧЫНАМ МУЖНАСЦІ!

Пракляты той час, калі жанчынам на іх свята жадаюць быць мужнымі. А як інакш? Ад каго зараз залежыць наш дабрабыт – ад палітыкаў, ад вайскоўцаў, ад замежных сяброў? Не, ад жанчын. Хіба зноў пасыпаць рану соллю? Хіба зноў прыгадваць, колькі моцы, колькі трывання патрэбна нашай жанчыне, маці, жонцы, сястры для таго, каб... проста накарміць свайго мужа, сына, брата? Ці ня шмат пытальнікаў... Наогул, само жыццё наша – суцэльны пытальнік. Угледзімся ў вочы жанчыны. Што ж бачым? Куды знікла з гэтых вачэй лагодная ўсмешка? Куды схаваліся мілыя сэрцу зорачкі? Хто скраў пяшчоту, адчуванне спакою, упэўненасці, сардэчнасці?

Непахісны парадак існавання чалавецтва заўсёды меў сваім падмуркам моцнага, ваяўнічага мужчыну і надзейную, прыгожую жанчыну – ягоную сяброўку. Абавязкі, дадзеныя Богам, тысячагоддзямі падзяляліся справядліва і раўнамерна. Вядома, перакосы былі заўсёды – і тое, што жанчыну прымушалі прымаць смерць разам з ейным мужам, і тое, што сотні жанчын, быццам худоба, марнавалі жыццё ў азіяцкіх гарэмах... Але ісціна заставалася вечнай: жанчына павінна была ствараць дабрабыт, мужчына ж павінен быў забяспечваць яе. Не, не гарэмы – самае страшнае. Бо ў іх жанчына заставалася жанчынай, не страчвала адзіную сваю прывілею – надзею на шчасце, надзею на нараджэнне дзіцяці. Што ж зараз? Што ж у нас?

Пустыя радзільныя дамы. Поўныя абартарыі... Пустыя паліцы крамаў і даўжэзныя чэргі... Пустыя кішэні мужоў – і пачкі даляраў на экранах тэлевізараў.

Каго абвінавачваць? "Иных уж нет, а те далече..." Не адкрыю Амерыку, калі скажу, што жанчынам зараз невымерна цяжэй, чым мужчынам. Што ж застаецца? Адно: ісці альбо ў прастытуткі, альбо прадаўшчыцай камісійнай крамы. Калі яшчэ возьмуць...

Прабачце нам, жанчыны! Прабачце за тое, што самыя прыгожыя з вас, генафонд нацыі, вымушаны зарабляць на жыццё, маецца на ўвазе на нармалёвае жыццё, паслугамі замежным турыстам, рызыкуючы здароўем, ахвяруючы маладосцю, парушаючы запаветы боскія. Прабачце за тое, што мы, мужыкі, імкнёмся забыцца на гэтае вар'яцкае жыццё і п'ём літрамі гарэлку, адрываючы ад сям'і апошнія грошы. Прабачце за тое, што вы павінны днямі прастойваць на польскіх ды турэцкіх базарах, зарабляючы на вопратку...

Я не заклікаю вас да змагання. Не прашу: патрымайцеся яшчэ крышачку, і мы зробім жыццё лепшым. Вы ўсё роўна не паверыце. Вы проста трымаеце на сабе жыццё. Трымаеце, ня гледзячы ні на што. Ня верце нам на слова. Бо калі мужчына не пацвярджае сваё слова дзеяннем – ён не мужчына. Вам не лягчэй ад гэтых сцвярджэнняў – я ведаю. Спрадвечная сувязь мужчыны і жанчыны не парушалася ніколі – дасць Бог, не парушыцца і зараз, бо інакш загіне свет. Інакш трэба будзе пачаць усё з нуля. А можа, так і трэба – кінуць у багну чорныя часіны, паглядзець адзін на аднаго іншымі, прасветленымі вачыма, пачуць музыку святла, стаць тым, кім нам трэба быць,– людзьмі. З той багны, куды спаўзае свет, не выберашся проста так. Трэба стаць чыстым. І менавіта тут, у гэтай непараўнальнай па складанасці справе, справе, ад якой залежыць само наша існаванне, жанчына павінна адыграць галоўную ролю. Вам – вечнасці!

**Алесь Палынскі.**

NO PROBLEM?

## Саўмін "з'ядае" Дом друку. Смачна есці?

27 лютага адбылося чарговае пасяджэнне Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны. Асноўным пытаннем парадку дня было выкананне Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь у кнігавыдавецкай дзейнасці Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Са справаздачай на пасяджэнні выступіў міністр інфармацыі Беларусі А.І.Бутэвіч, які падкрэсліў, што ў параўнанні з мінулымі гадамі назіраецца зніжэнне агульнай колькасці беларускамоўных выданняў па назвах. Павелічэнне кошту афсетнай паперы па дзяржаўнай цане да 39 тысяч рублёў за тону, а па камерцыйнай — да 50-52 тысяч рублёў, сённяшнія цяжкасці ў паліграфічнай справе, адмаўленне Дзяржбанка крэдытаваць дзяржаўныя выдавецтвы, неабходнасць выдання камерцыйнай літаратуры не будуць спрыяць росту колькасці і накладу беларускіх кніг. А.І.Бутэвіч прапанаваў членам Камісіі паставіць перад урадам рэспублікі пытанне аб павелічэнні датацый, бо выдзеленых на гэту справу 20 млн.рублёў пры цяперашнім росце цэн яўна недастаткова.

Сам таго не жадаючы, Анатоль Іванавіч непасрэдна ў час пасяджэння стаў рэжысёрам эпізода, які нагадвае бессмяротны фінал гогалеўскага "Рэвізора", бо словы міністра "Нядаўна я атрымаў распараджэнне Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб тым, што "Беларускі Дом друку" 2 лютага 1992 года перададзены Галоўнаму гаспадарчаму ўпраўленню Саўміна" прымусілі зніякавець усю залу.

Бутэвіч устрымаўся ад каментарыяў.

Зусім натуральнай была цікавасць некалькіх народных дэпутатаў да таго, чаму гэта рашэнне было прынята без ведама Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, а таксама Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета, але задаволіць гэтую цікавасць не было каму. Відаць, лютаўскае рашэнне Саўміна прадвырашыла чарговую сутычку паміж вышэйшай выканаўчай і заканадаўчай уладай.

Запамінальным было выступленне дырэктара выдавецтва "Полымя" М.І.Івановіча. "Раней усе стратныя беларускія выданні аддавалі нам, а прыбытковыя выдавецтвы ЦК КПБ забірала сабе, — паведаміў ён і прапанаваў: — Калі Саўмін забраў магутнасці "Беларускага Дома друку", то няхай забірае сабе і ўсе перыядычныя выданні".

Заключнае слова ўзяў старшыня Камісіі па культуры, адукацыі і захаванню гістарычнай спадчыны Н.С.Гілевіч. Ён адзначыў: "Стан беларускай кнігі зараз вельмі складаны. Урад пакуль што не распрацаваў праграму дзяржаўнай палітыкі ў галіне выдавецтва. Але, нягледзячы на цяжкасці, упадаць у роспач не варта, патрэбна дабівацца прыняцця Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь Закона аб аўтарскім праве, Закона аб друку і патрабаваць ад урада няўхільнага выканання ўсіх прынятых законаў, у тым ліку і Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".

**Анатоль Раманоўскі.**

*Лесвіца ў неба*

Гэта сустрэча чакалася, бадай, даўно — усе гады пошукаў беларусамі сваёй веры: ці то аддацца пад уладу Рускай праваслаўнай царквы, ці то падпарадкаваць душу польскаму каталіцкаму касцёлу. Аказваецца, і пад Богам можна застацца беларусамі, бо існуе Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, першаіерарх якой — архіепіскап Мікалай з Таронта — знаходзіцца цяпер з візітам у Беларусі. Малебны, асвячэнне крыжа, абрадавыя рытуалы, праведзеныя ўладыкам Мікалаем, надоўга застануцца ў памяці вернікаў.



НА ЗДЫМКУ: архіепіскап Мікалай пад час багаслужбы ў Курапатах.

**Фота У.Панады.**

*Новае!*

## Мецэнаты — сельскай гаспадарцы

Своеасаблівы спосаб мецэнацтва вынайшла акцыянернае таварыства "Беларуская аграпрамысловая біржа". У канцы лютага на базе навучальнага цэнтра Міністэрства сельгаспрадуктаў акцыянернае таварыства правяло першы этап рэспубліканскага конкурсу фермераў. Нягледзячы на сцвярджэнні, што зямлю ў нас ніхто не хоча браць, заяўкі на ўдзел у спаборніцтвах падалі больш як пяцьсот чалавек. Заснавальнікі акцыянернага таварыства, сярод якіх восемдзесят буйных прадпрыемстваў, якія выпрабляюць і перапрацоўваюць сельскагаспадарчую сыравіну, разумеюць, што тая сістэма ўласнасці не задавальняе грамадства. Фермеры змогуць унесці свой уклад у забеспячэнне Беларусі сельгаспрадуктамі.

Мэта конкурсу — не толькі выявіць самага моцнага, але і аказаць дапамогу руху, які толькі што нарадзіўся. Пад час спаборніцтваў фермеры паказвалі свае веды як у жывёлагадоўлі, раслінаводстве, так і ў такіх галінах, як прававая аснова сялянскай гаспадаркі, эканоміка, фінансы.

Усе пяцьдзесят удзельнікаў, якія прайшлі конкурсны адбор, узнагароджаны каштоўнымі падарункамі, трыццаць лепшых паедуць за кошт біржы на стажыроўку ў Польшчу, а тым, хто ўвайшоў у шасцёрку лепшых, камерсанты вырашылі пагасіць працэнты па крэдытах.



На здымку:
- Фермер з Маларыцкага раёна Вячаслаў Зезюкоў пасля здачы экзаменаў па ваджэнню трактара.

**Фота С.Брушко.**

*Рэпліка*

## Ці можна верыць БелаПАНу?

Паводле паведамлення агенцтва БелаПАН, з лёгкасцю надрукаванага ў "Знамени юности" за 4 сакавіка гэтага года, на рахунак Нацыянальнага банка Беларусі са 105 мільёнаў партыйных рублёў пералічана ўсяго 23,3 мільёна. У артыкуле пад назвай "Деньги партии: кто не спрятался — я не виноват" робіцца акцэнт на тым, што прадпрыемствы і камерцыйныя структуры, куды былі ўкладзены сродкі КПБ, не збіраюцца вяртаць іх дзяржаве. Усё гэта добра, партыйныя грошы павінны служыць людзям. Але адзін невялічкі радочак у спісе "должников", якіх, паводле выразу БелаПАНа, удалося "засечь" спецыялістам Нацыянальнага банка, прымусіў нас, супрацоўнікаў "Чырвонай змены", раскрыць рот і пачухаць патыліцу. Аказваецца, з партыйнай касы на рахунак "Чырвонай змены" паступіла ажно 19 тысяч рублёў!

Тым, хто думае, што за гэтыя грошы наш калектыў набыў сабе келіх уласнага дабрабыту, прыйдзецца супакоіцца. Ні гэтых, ні нейкіх іншых сродкаў КПБ на рахунак нашага штотыднёвіка ніколі не пералічвалася.

"Кампетэнтныя асобы" з фінансавага ведамства сцвярджаюць, што амаль 80 працэнтаў сродкаў КПБ—КПСС да гэтага часу не нацыяналізавана. Напрыклад, галоўны бухгалтар Нацыянальнага банка Георгій Клімовіч, які з'яўляецца таксама членам камісіі па перадачы маёмасці КПБ, прапанаваў разгледзець пытанне аб невыкананні пастановы "Аб маёмасці КПБ—КПСС".

Здаецца, зноў партыйная мафія? Можа быць, можа быць. Але цяпер вельмі лёгка спісваць усё на партыю-нябожчыцу — маўляў, яна за ўсё адказа. Але прычым тут "Чырвоная змена"? Відаць, калі вяртаннем партыйных грошай будуць займацца асобы з узроўнем кампетэнтнасці Г.Клімовіча, які дазваляе перадаваць у друк неправераную інфармацыю, апошні рубель КПБ дзяржава атрымае толькі ў трэцім тысячагоддзі. А тымі "дутымі" 19-ю тысячамі мы са здавальненнем падзелімся з Г.Клімовічам, БелаПАНам і газетай "Знамя юности".

P.S. Калі матэрыял рыхтаваўся да друку, у нас адбылася размова з Георгіем Клімовічам. Той паведаміў, што недакладныя звесткі яму далі падначаленыя. Аказваецца, тыя 19 тысяч былі пералічаны на ніколі не існаваўшы ў прыродзе рахунак партыйнай арганізацыі "ЧЗ". Пры такім "дасканалым" уліку сродкаў у Нацыянальным банку не прыходзіцца сумнявацца, што партыйныя грошы ніколі не будуць знойдзены.

# СВЯТОЧНЫ КУР'ЕР

*Святлана АЛЕКСІЕВІЧ, пісьменніца:*



— Настрой перад святам у мяне, як і ў большасці жанчын, не зусім святочны. Бо ў цяперашніх цяжкасцей нашага жыцця — жаночы твар. Жанчын сёння ў першую чаргу звальняюць пры скарачэнні штатаў, яны больш за мужчын адчуваюць недахоп грошай... Зараз я працую над новай кнігай і чым больш размаўляю з людзьмі, тым больш пераконваюся ў тым, што мужчыны па натуры больш схільныя да разбурэння, агрэсіўнасці. У жанчын жа ёсць здольнасць урастаць у новае жыццё, прыстасоўвацца да яго. І я хацела б пажадаць усім нам, каб гэтая здольнасць перамагла.

*Марыя КАРПЕНКА, галоўны рэдактар часопіса "Работніца і сялянка":*



— Я хачу пажадаць вам, дарагія жанчыны, у гэтай сучаснай калатнечы не астудзіць сваіх душ, бо за намі нашы дзеці, нашы сем'і. І як бы сёння нам ні было цяжка, трэба думаць пра заўтрашні дзень, пра будучыню нашых дзяцей, якія, верыцца, будуць жыць лепш за нас.

*Стэфанія СТАНЮТА, актрыса тэатра імя Янкі Купалы:*



—Што ж пажадаць вам, жанчыны? Цярпення. Працы. Надзей на лепшае. Часцей звяртайце ўвагу на прыгажосць, не грэбуйце мастацтвам, бо яно ўратуе вашу душу. Не хавайце сябе раней часу — шчасце ў жыцці. Патрэбна вялікая духоўная праца, яна ўтрымае чалавецтва, прывядзе яго да дабрыні. Я здзіўленая, мне балюча, што ўсе кінуліся ў матэрыю. Выставы пустуюць, у тэатр не ходзяць — нельга ж так! Пад час вайны ў Томску, дзе я працавала, і тое за два кварталы ад тэатра лішні білецік пыталіся. Смага была да мастацтва... Любіце, кахайце — гэтым выратуецеся, зробіце чыстым свет і сябе.



# Справа для сапраўдных жанчын

*Госць нашай газеты — старшыня Саюза жанчын Беларусі, дырэктар мінскага піўзавода "Беларусь" Тамара Мікалаеўна ДУДКО.*

**– Тамара Мікалаеўна, большасць нашых чатачоў ведае Вас як былога народнага дэпутата СССР. Аднак, мяркуючы па ўсяму, Вы не адчуваеце сябе пакрыўджанай жыццём, як некаторыя з вашых былых калег?**

— Увесь гэты час, калі я была дэпутатам, я падтрымлівала сувязь са сваімі выбаршчыкамі. Акрамя таго, я была старшынёй Мінскага гарадскога жаночага савета.

Старшынёй Саюза жанчын Беларусі мяне абралі на апошняй канферэнцыі ў асноўным жанчыны з перыферыі. Канешне, можна было працаваць вызваленым старшынёй, што мне і прапаноўвалася, аднак, я лічу, што значна больш карысці таму ж Саюзу я буду прыносіць, займаючыся вытворчасцю, прадпрымальніцкай дзейнасцю. Большую частку жыцця я працавала на вытворчасці, і цяпер, калі калектыў піўзавода "Беларусь" запрасіў мяне на пасаду дырэктара, я не змагла адмовіцца і прыйшла на гэта старое, здаецца, Богам забытае прадпрыемства, бо спадзяюся, што з гэтага становішча мы выйдзем.

**– Чым займаецца ваш Саюз?**

— Жанчыны — гэта вельмі моцны стабілізуючы фактар у любым грамадстве, а нашаму грамадству такі фактар неабходны. Я імкнуся цвяроза глядзець на сітуацыю, у якой мы апынуліся. Так ці інакш, нам трэба прайсці праз рэформы, і тое, як мы будзем праз іх праходзіць, залежыць у першую чаргу ад самага пакрыўджанага і змучанага нашага сацыяльнага слоя — жанчын.

Зараз прынята лічыць, што наша жанчына ў вельмі цяжкім стане. Аднак гэта сведчыць аб тым, што ўсё наша грамадства хворае. Чыста жаночых праблем няма. Мы называем жаночымі праблемы дзіцячага харчавання, недахопу дзіцячага адзення і г.д. Аднак гэта ўсё праблемы грамадства. І я лічу, асноўнае, што мы павінны зрабіць зараз, — даць магчымасць моладзі стаць на ногі, самім зарабляць.

Вельмі важны бок нашай дзейнасці — гэта індывідуальны прыём. Мы праводзім дабрачынныя акцыі. На Калядны, напрыклад, правялі дабрачынны збор адзення, кніг, цацак для малазабяспечаных сем'яў. Дарэчы, гэтая акцыя яшчэ не скончылася, мы працягваем яе. Хоць магчымасцей займацца дабрачыннасцю ў нас пакуль няшмат: гэта спонсарскія ўзносы прадпрыемстваў, дапамога асобных людзей.

Мы стараемся шукаць тых, каму патрэбна наша падтрымка, складаем спісы клопату, як мы іх называем. Часам сустракаюцца дзіўныя лёсы. Напрыклад, ёсць у нашых спісах сям'я, у якой дзеці засталіся без бацькоў, і каб не здаваць у інтэрнат, іх узяла да сябе бабуля, а калі памірала, перадала дзяцей сваёй сястры. І як мы можам не дапамагчы такім людзям? Нават калі ў нашай арганізацыі няма грошай, то мы вымаем іх са сваіх кішэняў.

Пэўныя меры па сацыяльнай абароне моладзі і сям'і былі прыняты рэспубліканскім заканадаўствам, аднак усе яны перакрэслены нядаўнім рэзкім павышэннем цэн. І я лічу, што асноўнае, што мы павінны зрабіць зараз, — гэта даць магчымасць моладзі стаць на ногі, самім зарабляць.

**– Аднак для таго, каб моладзі займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю, трэба мець пачатковы капітал і пэўныя навыкі.**

— Калі гаварыць пра жанчын, то я толькі сёння ,ездзіла ў Савет Міністраў з просьбай аб прадастаўленні памяшкання, каб адкрыць жаночую школу бізнесу. Мы мяркуем зрабіць навучанне ў гэтай школе бясплатным, на спонсарскай аснове.

Вось мой сын кажа, што хацеў бы быць фермерам. Аднак, што ён умее, што ён ведае пра зямлю? Такіх, напэўна, нямала, і для іх абавязкова павінны быць школы фермераў.

Мы ставім сабе задачу займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю, бо на дабрачыннасці далёка не паедзеш. У нашага гарадскога савета жанчын ёсць малое прадпрыемства па лячэнню алкагалізму, наркаманіі, таксікаманіі і нават дзіцячага заікання, і сродкі ад гэтага мерапрыемства ідуць на наш дабрачынны рахунак. Аднак гэтага, канешне, мала. У рэспубліцы павінна існаваць сістэма мер, якая давала б магчымасць маладому чалавеку выжыць.

Зараз ашчаслівіць усё чалавецтва немагчыма, таму я стаўлю сабе канкрэтныя задачы, спрабую аказаць канкрэтную дапамогу.

Да нас людзі прыходзяць самі, дапамагаюць разбіраць пошту, прымаць наведвальнікаў. Я, у асноўным, займаюся прыёмам у вячэрні час. Канешне, даводзіцца часам слухаць і непрыемнае. Напрыклад, аднойчы вечарам, калі я дзяжурыла ў грамадскай прыёмнай нашага Саюза, патэлефанаваў мужчына. Мы вырашылі яго праблему, і ён вельмі дзякаваў за размову з ім. Кажа: "Вы такая добрая, а вось да вашай бюракраткі Дудко я ўжо колькі дзён дазваніцца не магу". І нават папрасіў тэлефон майго намесніка, каб пасварыцца на мяне. А я настолькі стомлена была, што не стала пераконваць яго, што Дудко — гэта я. Ці ж галоўнае ў тым, ад каго чалавек атрымае падтрымку?

**– Ці ёсць у Вас ворагі?**

— У мяне ёсць такая рыса: я імкнуся зразумець кожнага. Калі я працавала ў Вярхоўным Савеце СССР, то ён быў вельмі супярэчлівы, вельмі расслоены. Мне даводзілася працаваць і з Traўкіным, і з Бурбулісам, і ў той жа час з Алкснісам і з Рубіксам. І розныя палітычныя погляды не перашкаджалі нам паважаць адзін аднаго, цаніць чалавечыя якасці кожнага.

**– А ці маеце Вы, як грамадскі дзеяч, сваю "каманду"?**

— Так, у мяне ёсць цэлы шэраг аднадумцаў. Сярод іх і мужчыны, і жанчыны.

**– Як Вы ставіцеся да праблемы адраджэння нацыянальнай спадчыны, роднай мовы?**

— У высокім сэнсе слова наша духоўнае адраджэнне, у тым ліку і адраджэнне нацыянальнай свядомасці, павінна спачатку адбыцца ў душы жанчыны, а потым, пачынаючы з пялёнак, выхоўвацца ў дзецях.

**– Каго Вы лічыце самым перспектыўным палітычным дзеячам на Беларусі?**

— Калі шчыра, я чакаю новых.

**– Як будзеце сустракаць 8 Сакавіка?**

— Звычайна ў гэты дзень мне даводзіцца вельмі шмат працаваць. Мяне запрашаюць на розныя афіцыйныя і неафіцыйныя мерапрыемствы, і я павінна там быць.

**– Ізноў Вы пра работу...**

— Я б не змагла сябе паважаць, калі б не была гаспадыняй і маці. У сям'і мяне заўсёды падтрымліваюць.

**– Вы – дырэктар піўзавода, а ці любіце гэты "мужчынскі" напітак?**

— Я вельмі паважаю гэты напітак, але толькі дэгустую яго. Адмоўныя адносіны да піва ў нас выкліканы тым, што мы не ўмеем культурна ўжываць яго. Акрамя таго, піва вельмі рэдка даходзіць да спажыўца такім, якім яго выпускае завод.

**– Я віншую Вас са святам, а падарункам, спадзяюся, будзе нумар нашай газеты з Вашым інтэрв'ю.**

**Гутарку вёў П.Сіманаў.**

**Фота М.Амельчанкі.**

Тэлефоны грамадскай прыёмнай Мінскага жаночага савета: 36-63-62, 36-64-43. Адрас: Мінск, вул.Камуністычная, 2.



# МЫ З ВАМІ

Сярод жанчын, якіх мне хацелася б павіншаваць з сакавіцкім святам, ёсць чалавек чужы для мяне ў сэнсе кроўнай роднаснасці і бясконца дарагі духоўна...

Юра сышоў на вайсковую службу ў траўні 1986 года. Пасля сканчэння ваеннага вучылішча на Урале сын даслаў ліст, што надалей скіраваны служыць у Манголію. Такім чынам, Іна Сяргееўна напачатку нават не ведала праўды. Аднак дзень да дня расла трывога за старэйшага сына. Яна ўзнікала па тым часе ў кожнай сям'і (як, дарэчы, й сёння), ледзь з'яўлялася там позва,— выклік у ваенкамат. І доўжылася, цягнулася гэтая трывога, як хвароба, пакуль маладзенькі салдацік не вяртаўся цэлы і здаровы да роднай хаты. Дык вось аднойчы позірк Іны Сяргееўны спалохана натыкаецца сярод мілых сынавых жартачкаў на назву горада ці мястэчка, якога, яна дакладна ведала гэта, у Манголіі няма. Ды як ёй не ведаць, калі яна, афіцэрская жонка, аб'ездзіла з мужам усю Манголію. І тут Іна Сяргееўна, усё больш усведамляючы няўхільнае гора, якое брыдзе ў іх невялічкую кватэру, адчула наўмысна спакойны тон сынавага допісу, наноснасць кепікаў — адзеля "канспірацыі"! (Цяпер ужо мы ведаем: салдатам забаранялі пісаць пра сапраўднае месца службы — Афганістан, цэнзура "непакоілася", каб не прасочвалася гэтая інфармацыя разам з няроўнымі салдацкімі радкамі туды — да роднай зямлі, бацькоў, жонак, дзяцей). Але прыхаваная праўда праступала сярод слоў у лістах, страшная праўда скаланала душы блізкіх. Наіўная хлапчукоўская спроба падман824 маці, заспакоіць іх хваляванне! Іна Сяргееўна, як толькі адчула падман, адразу напісала: "Юрачка, ты, пэўна, у Афганістане!" Сын жартаваў у адказе з матуліных турботаў: які Афганістан, калі паўсюль — Манголія. Толькі аднойчы вечарам гэтая Юрына гульня ў хованкі скончылася, знішчыліся апошнія кволыя спадзяванні маці: няма сына, загінуў у Афганістане. 13 лістапада 1986 года. Травень, чэрвень, ліпень, жнівень, верасень, кастрычнік, лістапад... Мінула няпоўных 7 месяцаў, як выпешчаны, выгадаваны 18-гадовы сын крочыў за бацькоўскі парог і знік, быццам у прорве.

Цынкавыя труны ішлі адтуль бясконцым патокам. Адзін за адным узнікалі новыя пагоркі свежай зямлі на могілках. Там часта можна было сустрэць згорбленую жаноцкую постаць: жанчынка напачатку прыбірала адну магілку, пасля хадзіла ля новых узгоркаў і раскладвала нейкія паперкі. Гэта былі запіскі, якія разам са словамі спачування ўтрымлівалі хатні тэлефон Галаўнёвай. Так распачынаўся рух супраціўлення афганскай вайне. Часам захліснутыя горам бацькі збіраліся тут жа, прама на могілках, і ў роспачы і адчаі пісалі пісьмы ў адрас Крамля. "Вы іх забілі...",— ляцелі лісты, палітыя слязьмі, у ЦК, у Прэзідыум Вярхоўнага Савета, Міністэрства абароны СССР і асабіста спадару Гарбачову. Нават на XIX партканферэнцыю (калі памятаеце, на яе наогул ускладаліся вялікія надзеі ва ўсіх сферах жыцця):"Вы іх забілі... Спыніце гэтую вайну, спыніце бессаромнае, злачыннае забойства нашых дзяцей". Аніякіх адказаў, зразумела, не прыходзіла. Пісьмы ж ластаўкамі пырскалі з урадавай пошты і, пэўне, церабілі сумленне яснавяльможных насельнікаў Крамлёўскіх палатаў. А мо, не... Калі ж давалі палітычную ацэнку гэтай вайне, перад вачыма падманутай маці паўстала "крагальная сцэна": Гарбачоў абдымае Грамыку. "Мы не былі згодны з палітычнай ацэнкай вайны ў Афганістане,— гаворыць Іна Сяргееўна,— бо вінаватых ў развязванні жудаснай бойні так і не былі знойдзены". Сапраўды, Грамыку далі спакойна закончыць жыццёвы шлях. Старасць і спакой высокапастаўленых асоб у нас надзвычай шануецца — стамляюць людзей дзяржаўныя справы, на знос чалавек працуе дзеля народа і радзімы. Пісьмы ж матылькамі ляцелі на святло надзеі і праўды, ды абпальвалі крылы. Услед за бясследна знікшым папяровым выраем пачала збірацца ў дарогу і Іна Сяргееўна. Выступ на Камітэце па справах воінаў-афганцаў ВС СССР, сустрэча ў ВС СССР з Камітэтам абароны жанчын ("які, лічу, наогул нічога не зрабіў",— заўважыла Галаўнёва), уручэнне пісьмовага пратэсту Язаву. Вось далёка не поўны пералік спраў, якія арганізавала і натхніла гэтая маленькая сівая жанчынка. Пра апошнюю падзею нават паведамілі ў кароткахвілінным навіне ТСН, хаця запіс вёўся ад пачатку сустрэчы з камандаваннем да бясслаўнага канца: Іна Сяргееўна паклала на стол ордэн, якім пасмяротна быў узнагароджаны яе сын. Колькі ж ні прасілі маці аддаць ім кінастужку альбо зрабіць копію з яе, не папрасіліся, не дачакаліся, як, дарэчы, і заўсёды было з іх просьбамі, спадзяваннямі.

Сёлета Іну Сяргееўну запрасілі на прэзентацыю фільма "Пыл вайны" ў Парыж. Першая частка стужкі была адзнята французскім тэлебачаннем, так бы мовіць, "з боку" афганскай апазіцыі. Наша ж камандаванне не дало дазволу на аналагічныя здымкі ў раёне дыслакацыі савецкіх войскаў. Таму другая частка "Пылу вайны" здымалася французамі пасля вываду войск з Афгана, у Мінску, па крывавых слядах гэтай далёкай і блізкай вайны. Іну Сяргееўну запрасілі выступіць на Парыжскай тэлевізіі, і ўсе паўгадзіны яе выступу ў студыі ні на імгненне не змаўкалі тэлефоны. Так французы спачувалі гору маці, так падтрымлівалі яе стаічную барацьбу супраць ілжы і "інфармацыйнага грыму" на падзеях у Афганістане. Яна сказала, што ўсе кіраўнікі ад часоў Брэжнева да Гарбачова павінны паўстаць перад судом за злачыннае развязванне вайны, за яе страшэнныя наступствы, прычым несці адказнасць не толькі перад уласным народам ("усе ж выдатна ведалі, што парушаецца закон аб усеагульнай ваеннай павіннасці"), але і перад афганскім народам.Яна абуралася ўручэннем Гарбачову ганаровай Нобелеўскай прэміі ("ён павінен быў, калі мае сумленне, адмовіцца ад яе, бо працягваў пасылаць на гібель нашых дзяцей, бо прыняў рашэнне аб вывадзе войск толькі пад уціскам 140 краін ААН і антываеннага руху на сваёй Радзіме"). Францыя прымала беларускую маці так шчыра, так захоплена яе мужнасцю, з такой цеплынёй, якой, на жаль, Іна Сяргееўна ды й іншыя з гэткім жа гаротным лёсам жанчынкі, не бачылі на сваёй роднай зямлі. Пэўне, нам ізноў патрэбен час, каб усвядоміць тое, што ўвачавідкі бачаць іншыя,— веліч, мужнасць, няскоранасць спакутаваных маці. Тут бы нам прыпадобніцца да Захаду і не глядзець з разяўленымі ратамі як, акрамя "прыродных рэсурсаў" высока цэняцца "дзікім Захадам" непадробныя парывы душы, больш каштоўныя за залатаносныя жылы. На наступны дзень Парыж наведаў Гарбачоў. Думаю, яго сустракалі ніадрэнна. Што, дарэчы, і тагачасная прэса адлюстравала, але, упэўнена, ні ў якім разе не цяплей, не чалавечней, чым ссівелую жанчыну з Беларусі, якая брыдзе са сваёй бядотнай ношай, нязломная, здольная нават ва ўласным адчайным горы працягнуць руку іншым гаротнікам. Хіба гэта не дзіва! Хіба гэта не каштоўнасці, не дыяменты — такія людзі!

"Калі пачаў развальвацца Саюз, мы падавалі паперы ў Вярхоўны суд, у Пракуратуру СССР, прасілі адшукаць вінаватых у развязванні крывавай афганскай вайны. Запатрабоўвалі грошы з рахунку злачыннай КПСС перапічыць на пакрыццё матэрыяльных і маральных страт (хаця, зразумела, самага галоўнага вярнуць ужо ніхто не можа — жыцця, здароўя, надзеі) пацярпелым ад вайны ў Афганістане",— распавядае І.С.Галаўнёва. Беларускія жанчыны звярнуліся да дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Удумайцеся, на працягу 10 гадоў аніхто з кіраўнікоў нашай рэспублікі не заявіў пратэст супраць гібелі, знявечвання беларускіх хлапцоў у далёкім чужым Афгане. Зараз гэты зварот абмяркоўваецца ў Вярхоўным Савеце Беларусі. "Сёння нашы дзеці ўжо не лічацца воінамі-інтэрнацыяналістамі. Гэты назоў, само паняцце страшна скажона прапагандай. Яны атрымалі статус "удзельнікаў вайны", афганскай вайны, зразумела. Бо нашы сыны загінулі менавіта на вайне". 25 лютага Іна Сяргееўна ездзіла ў Маскву на пасяджэнне былога Савета сем'яў воінаў, што загінулі ў Афгане. "Мы вырашылі змяніць назоў нашай арганізацыі і перайменавалі яе ў Саюз бацькоў загінуўшых афганцаў. У Статуце засведчана, што мы, бацькі, якія страцілі дзяцей, будзем да канца дзён сваіх шукаць забойцаў, шукаць тых, хто думае схавацца за спінай Часу і Забыцця. Нам няма чаго губляць і чаго баяцца... І яшчэ адна з мэтаў — узвесці помнік, як напамін усім маці: у вас растуць сыны, будзьце ж пільнымі, нізавошта не аддавайце іх у драпежныя рукі".

Я і мае калегі шчыра віншуем Іну Сяргееўну Галаўнёву са святам. Шчырыя віншаванні мы адрасуем усім жанчынам — маці, жонкам і іх дзецям, праз сем'і якіх прайшла жудасная афганская вайна. Мы з вамі, памятайце пра гэта!

Алена Агібалава,
рэдактар аддзела
па пытаннях палітыкі.
Тэл. 39-87-94.

Фота У. Панады.

# Развод Сярпа і Молата,

## або Чаму жанчыны не дасягнулі роўнасці з мужчынамі

*Аб тым, што жанчыны любяць атрымліваць у падарунак кветкі, мы прыгадваем толькі два разы на год: на дзень іх нараджэння і напярэдадні 8 Сакавіка. Гэта іх свята. Але падзеі 1992 года не дазволяць жанчынам Беларусі па-сапраўднаму прасякнуцца святочным веснавым настроем. І прычынай таму будуць не толькі лічбы на цэнніках у крамах, што могуць прывесці да шоку нават людзей з моцнымі (дагэтуль) нервамі. Асноўную занепакоенасць у жанчын выклікаюць думкі аб сваім далейшым лёсе, аб заўтрашнім дні. І занепакоенасць гэтая мае пад сабою глебу.*

Усе 70 год існавання Савецкай імперыі яе ідэолагі заклікалі да роўнасці паміж мужчынам і жанчынай. Але адзіная роўнасць, якой яны дасягнулі, выражаецца ў тым,што як мужчыны, так і жанчыны атрымліваюць аднолькава малую зарплату, за якую вымушаны працаваць аднолькавы час. А ў астатнім роўнасці не толькі не было, але ў апошні час гэтая няроўнасць жанчын становіцца ўсё больш відавочнай. У сувязі са скарачэннем вытворчасці, эканамічным крызісам над грамадствам навісла чорная постаць беспрацоўя, асноўны цяжар якога ляжа на плечы жанчын. І калі на Захадзе мужчына здольны за кошт свайго заробку ўтрымліваць усю сям'ю, то ў нас гэта амаль што немагчыма.

На сённяшні дзень у рэспубліканскім Цэнтры занятасці зарэгістравана 2950 афіцыйна прызнаных беспрацоўных. Сярод страціўшых працу ўсё больш тых людзей, якія апынуліся на вуліцы ў сувязі са скарачэннем альбо ліквідацыяй прадпрыемстваў. А паводле звестак незалежнай рэспубліканскай біржы занятасці малога прадпрыемства "Ментан", сярод людзей, патрапіўшых пад скарачэнне, 80 працэнтаў жанчын. Увогуле на вышэйназваную біржу звяртаюцца не толькі тыя, хто шукае работу, але і тыя, хто хоча памяняць месца працы альбо знайсці дадатковую. Дык вось: сярод агульнай колькасці людзей, што звярнуліся на біржу за ўсімі названымі паслугамі, жанчыны складаюць 65—70 працэнтаў. А гэта гаворыць за тое, што мужчына не толькі не здольны пракарміць сям'ю за сваю зарплату, але і грошай жонкі не хапае для нармальнага існавання, даводзіцца шукаць іншыя, дадатковыя крыніцы даходу. Такога вось узроўню дасягнула інфляцыя і да такой ступені збяднела наша грамадства.

Але якія прафесіі сталі раптоўна непатрэбнымі? Калі вы лічыце, што гэта толькі супрацоўнікі былых райкамаў, абкамаў і гаркамаў КПБ, то глыбока памыляецеся. Яны вось акурат у большасці сваёй уладкаваліся. Пад скарачэнне трапляюць справаводкі, сакратары-машыністкі, інжынеры-тэхнолагі і г.д. Месца ва ўтульных кабінетах і мяккіх фатэлях ім не знайшлося. І начальнік аддзела па працаўладкаванню рэспубліканскага Цэнтра занятасці Надзея Раманава лічыць, што дзяўчаты, якія сёння збіраюцца паступаць у тэхнічныя ВНУ на інжынерныя спецыяльнасці — заўтрашнія патэнцыяльныя беспрацоўныя.

Працэс беспрацоўя сярод жанчын ахінуў грамадства, нібыта хваля. Як яго стрымаць і як увогуле ставяцца спецыялісты да праблемы жаночай працоўнай неўладкаванасці, чым тлумачаць? З такімі пытаннямі я завітаў у Дзяржаўны камітэт па працы і сацыяльнаму забеспячэнню да кандыдата эканамічных навук Уладзіміра Уладзіміравіча Нікanчыка.

**— Уладзімір Уладзіміравіч, на вашу думку, чым выклікана тое, што жанчыне лягчэй пазбавіцца працы, чым мужчыну, і чым усё гэта можа скончыцца?**

— Урэшце і наша грамадства сутыкнулася з тым, што існуе падзяленне на жаночыя і мужчынскія прафесіі. Гэта падзяленне, безумоўна, існавала і раней, але не мела той вастрыні, якая адчуваецца сёння. Раней жанчыны маглі займаць мужчынскімі прафесіямі. Я не кажу аб нейкай дыскрымінацыі, што, нібыта, выявілася ў сённяшнія дні. Проста дыктуе свае ўмовы жыццё. Дзеля таго, каб вырашаць сямейныя праблемы, жанчыне даводзіцца шмат часу праводзіць у чэргах, яна ўвесь час думае аб тым, як палепшыць сямейны дабрабыт. І, як вынік, зніжаецца яе рэйтынг як супрацоўніцы. Не хачу сказаць, што мужчыны маюць большыя здольнасці. Проста ў іх больш магчымасцей аддацца поўнасцю сваёй працы. Акрамя таго, тыя веды, якія мы атрымалі ў навучальных установах, на сённяшні дзень маюць не вельмі вялікую каштоўнасць. Трэба перавучвацца, больш працаваць над сабою, а ў жанчын на гэта проста няма часу. Быт не дае жанчыне на роўных канкураваць з мужчынамі ў мужчынскіх прафесіях. Да таго ж, і раней у нас існавала так званае "скрытае" беспрацоўе: 30 працэнтаў лішніх людзей працавала на прадпрыемствах. Яны нікому там не былі патрэбныя, але ўсе былі ўладкаваныя. Сёння цэны вызначаюцца не затратамі працы, а вынікаюць з непасрэднай дамоўленасці паміж прадаўцом і пакупніком. Цана адарвалася ад працаёмкасці. А значыць, і тыя людзі, што былі лішнімі, трапляюць пад скарачэнне. А каго скарачаюць у першую чаргу? Безумоўна, таго, хто можа прынесці прадпрыемству новыя выдаткі. У жанчын можа быць і дэкрэтны адпачынак, ды й бюлетэнь у сувязі з хваробай дзіцяці яны даволі часта бяруць. Значыцца, і пазбаўляцца ў першую чаргу трэба ад іх. На сённяшні дзень у грамадстве існуе непрадказальнасць забеспячэння працай: сёння патрэбна адна спецыяльнасць, заўтра — другая. У нас жа адна спецыяльнасць на ўсё жыццё. І калі мужчына можа, у горшым выпадку, пайсці выконваць цяжкую фізічную працу, то жанчыне гэта зрабіць немагчыма. Таму і беспрацоўных сярод жанчын будзе болей.

**— Якое ж выйсце з гэтага становішча?**

— На маю думку, выйсце можа быць толькі адно — набываць жанчынам нармальныя жаночыя спецыяльнасці.

Не ведаю, ці выратуе становішча такая перакваліфікацыя жанчын і ці будзе на карысць яна нашай гаспадарцы. Адно вядома дакладна: беспрацоўных сярод жанчын будзе шмат. Адны, магчыма, і здолеюць набыць новую прафесію, другія стануць вольнымі прадпрымальніцамі, кагосьці зможа ўтрымліваць муж, астатнім жа, відаць, давядзецца браць у рукі лом.

І ўсё ж — са святам, дарагія жанчыны!

**Зміцер Лукашук.**



*На маю думку*

# ГРОШЫ: ГАРАНТ БАГАЦЦЯ ЦІ НААДВАРОТ?

Пры збалансаваным рынку нажніц паміж коштам масы спажывецкіх тавараў і попытам на тавар амаль няма. Попыт на спажывецкія тавары, у сваю чаргу, залежыць ад некалькіх фактараў: суадносін масы заработнай платы і кошту масы спажывецкіх тавараў, імкнення насельніцтва да накаплення багацця і іншых.

У нашай краіне не было магчымасці рабіць накапленні шляхам укладання грошай у сродкі вытворчасці, напрыклад, набыцця акцый, прадпрыемстваў, зямлі. Багацце можна было накапіць шляхам скупкі прадметаў спажывання ці звычайнага адкладвання грошай. І асноўная маса насельніцтва імкнулася накопліваць багацце менавіта такім шляхам. Грошы былі надзейным гарантам багацця. Але ў апошні год давер да грошай быў падарваны, і асноўнай прычынай з'явілася тое, што дзяржава абышлася з укладчыкамі ашчадных банкаў больш бесчалавечна, чым бандыт, маючы намер абрабаваць або ўжо абрабаваўшы сваіх грамадзян. Людзі пачалі імкнуцца як мага хутчэй пазбавіцца ад грошай, укладваючы іх ва ўсё магчымае. Прычым усё гэта адбываецца на фоне скарачэння выпуску спажывецкіх тавараў.

Дзяржава спрабуе шляхам падаражання тавараў шырокага ўжытку, а потым павелічэннем выпуску большай іх колькасці збалансаваць спажывецкі рынак. Але гэта цяжка будзе зрабіць, бо амаль усе грамадзяне пры магчымасці набываюць спажывецкія тавары на запас, г.зн. ствараюць у некаторым родзе скарб. Дзе выйсце з такой складанай эканамічнай сітуацыі?

Па-першае,гэта цэны на спажывецкія тавары павінны адпавядаць попыту, па-другое, нарошчваць выпуск спажывецкіх тавараў, па-трэцяе, за наяўныя грошы даць магчымасць набываць акцыі, прадпрыемствы, зямлю, выкупляць кватэры, па-чацвёртае, вярнуць давер да грошай і асабліва тых, якія знаходзяцца на ўкладах у ашчадных банках.



Напачатку разгледзім, хто стаіць за ўкладамі ў дзяржаўным ашчадным банку. Людзі марнатраўныя, гультаі, п'яніцы і да іх падобныя ніколі ўкладаў не мелі. Спекулянты, мафіёзі даўно забралі свае грошы і набылі іншыя, больш надзейныя, каштоўнасці. Такім чынам, у ашчадным банку засталіся грошы самых старанных, беражлівых, працавітых людзей, якія клапоцяцца аб сваёй будучыні, будучыні сваіх блізкіх і не займаюцца спекуляцыяй. Вось іх, прыстойных, законапаслухмяных, безабаронных, і мае намер дзяржава абрабаваць.

Калі ж аднавіць справядлівасць і ўвесці каэфіцыент, які б павялічваў уклады ў 10–15 разоў (улічваючы інфляцыю), то гэта даб'е канчаткова спажывецкі рынак. Але ж зусім хутка пачнецца масавая прыватызацыя, а пры такой сітуацыі для многіх грамадзян дзяржаўная маёмасць дастанецца амаль дарма.

З гэтай нагоды неабходна з грошамі, якія знаходзіліся на ўкладах да 1 студзеня 1992 года, правесці два мерапрыемствы. Для грамадзян, якія жадаюць зняць грошы з павялічаным каэфіцыентам, увесці каэфіцыент, які павялічваў бы ўклады ў 2–3 разы. На астатнія ўклады вызначыць каэфіцыент, які павялічваў бы ўклад у 10–15, а магчыма, і ў больш разоў, г.зн. заведама больш, чым павышэнне кошту спажывецкіх тавараў і плюс плата за маральную страту, але з умовай, што на гэтыя грошы будуць набывацца дзяржаўныя акцыі (накшталт спецыяльных бонаў, на якія можна набыць толькі нерухомасць), зямля, кватэры, прадпрыемствы. Укладанне гэтых грошай у сродкі вытворчасці (фактычна, нічога не адбудзецца, зменіцца толькі ўласнік) не дасць ім магчымасці трапіць на спажывецкі рынак. Тыя грамадзяне, якія пажадаюць атрымаць наяўныя грошы для набыцця спажывецкіх тавараў, проста прададуць акцыі або іншыя каштоўныя паперы (грамадзяне абмяняюцца правам уласнасці на каштоўныя паперы) за наяўныя грошы, г.зн. уклады ашчадных банкаў не будуць аказваць уплыву на спажывецкі рынак.

У выніку такой акцыі будзе зноў адноўлены давер да грошай і асабліва да ўкладаў; будзе адноўлена справядлівасць, г.зн. старанныя, законапаслухмяныя, беражлівыя грамадзяне ў выніку эканамічнай рэформы не толькі не пацерпяць, а нават будуць у выйгрышы; дзяржава адновіць рэпутацыю суб'екта, які клапоціцца пра сваіх грамадзян; сярод іх зноў пачне пераважаць меркаванне, што захоўваць грошы ў ашчадных банках сапраўды надзейна і выгадна. І, як вынік, прыстойныя грамадзяне пачнуць далучацца да прыватнай уласнасці, а не толькі мафіёзі і "ценевікі".

**П. Русін.**



Вы вельмі кахаеце свайго будучага мужа. І ўсё-такі часам вас пачынаюць адольваць сумненні — ці гатовыя вы да шлюбу? Магчыма, адказаць на гэтае пытанне вам дапаможа тэст, які мы прапануем вашай увазе.

*Тэст*

# ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ ЗАМУЖ

1. Ці застанецца ранейшай ваша прафесія пасля шлюбу?
а) вярнуся да яе пасля нараджэння першынца–2
б) любой цаной–3
в) не, мая праца мяне не задавальняе–1.
2. Ці хочаце вы мець дзяцей?
а) самае малое - дваіх–3
б) не–1
в) пры ўмове, што іх жадае муж–2.
3. Як будзеце рэагаваць, калі заўважыце, што ў кампаніі ваш муж звяртае ўвагу на іншую?
а) пачну какетнічаць з іншым мужчынам–2
б) учыню сцэну–1
в) гэта мяне расчаруе, але я не пакажу выгляду–3.
4. Ці раўнуеце вы?
а) так–1
б) не вельмі–2
в) думаю, што павінна давяраць партнёру–3.
5. Калі вы пасварыцеся, хто ўступае?
а) я–2
б) ён–1
в) раз - я, другі раз - ён–3.
6. Ці ўмееце вы добра гатаваць?
а) яшчэ трэба вучыцца–1
б) толькі некаторыя стравы–2
в) люблю гатаваць–3.
7. Ці ёсць у вас тайны ад будучага супруга?
а) няма–3
б) зрэдку–2
в) ёсць рэчы, аб якіх я не магу з ім гаварыць–1.
8. Калі ваш партнёр - вялікі аматар футбола, як паставіцеся да гэтага?
а) пастараюся адвучыць яго ад гэтай звычкі–1
б) калі ён на матчы, займуся любімай справай–3
в) сама пастараюся захапіцца–2.
9. Які шлюб вашых бацькоў?
а) выдатны–3
б) здавальняючы–2
в) разышліся–1.
10. Ці лічыце вы, што муж павінен прысвяціць сябе працы?
а) так–1
б) не цікаўлюся яго працай–2
в) кар'ера - не галоўнае ў жыцці–3.
11. Што вы зробіце, калі ў вас розныя погляды на моду?
а) уступлю–3
б) пайду на кампраміс–2
в) пастараюся пераканаць–1.
12. Як вы адносіцеся да так званага "пробнага шлюбу"?
а) я б не згадзілася–1
б) добрая магчымасць спазнаць адзін аднаго–3
в) у мяне няма меркавання наконт гэтага–2.
13. Ці лічыце вы нармальным, калі жанчына перад уступленнем у шлюб сустракалася з іншымі мужчынамі?
а) думаю, гэта неабходна–3
б) асабіста для мяне - не–2
в) у залежнасці ад акалічнасцей–1.
14. Ці даруеце вы свайму мужу здраду?
а) так–3
б) ніколі–1
в) у залежнасці ад акалічнасцей–2.

**Ад 14 да 23 балаў.** Магчыма, з цягам часу вы памяняеце многія свае погляды на жыццё. А пакуль ваш шлюб будзе поўны канфліктаў, бо вы не ўмееце прыстасоўвацца да свайго будучага мужа. Перш за ўсё навучыцеся быць цярплівай і час ад часу ўступаць партнёру.

**Ад 24 да 32 балаў.** Калі вы збіраецеся замуж, то гэта рашэнне можа быць крыху паспешлівым. Але брак неабавязкова скончыцца разводам. Вы разумееце свайго партнёра. Можа стацца, вам не хапае жыццёвага вопыту, даверу, упэўненасці ў сабе. Калі вы пачнеце сачыць за сваімі ўчынкамі — у наяўнасці ўсе перадумовы стаць добрай жонкай. Займіцеся адукацыяй, гэта надасць упэўненасці, прысвяціце сябе прафесіі — гэта дае незалежнасць.

**Ад 33 да 47 балаў.** Шчаслівы будзе той, каму вы скажаце "так". Вы не дапусціце "чорных воблакаў" над сумесным жыццём. Гэта не азначае, што вы адмовіцеся ад сваіх інтарэсаў і на жаданні партнёра заўсёды будзеце адказваць згодай. Вы дастаткова разумная і дасце магчымасць мужу задаволіць свае асабістыя інтарэсы, захоўваючы ў той жа час пэўную незалежнасць.

По матэрыялах балгарскага друку.

# А ВЫ ЛАСЫ НА ЛАСІНЫ?

Ах, як яны мяне пакрыўдзілі! Кажуць: "Тэрмінова напішы матэрыял у святочны нумар!". І з націскам так сказалі. А я, слабая, кволая і дужа жаноцкая для нашага жорсткага часу, не здолела адмовіць. Не змагла.

І вось зараз сяджу і пакутую. У свята не дадуць адпачыць, во жыццё! Ай, буду я ім пісаць, чакайце! Быццам бы мне больш няма чаго рабіць.

Падыходжу да люстэрка і шчыльненька так углядаюся — не, і яшчэ раз не — ніякіх недахопаў. Чараўніца! На што ні глянеш — усё першага гатунку: што табе талія, што — вочы, што — усё астатняе.

Заходзіць сяброўка і адразу з парога псуе мне нервы:

— Ты! Яшчэ! Не маеш! Ласінаў!

Так, не маю. Не ўсім жа быць палюбоўніцамі кааператараў і хадзіць у тых ласінах! І што мне, гаротніцы, без іх рабіць?

— На сябе глянь: доўгія спадніцы нават бабулькі ўжо не носяць.

Віка такога не праглыне:

— А ты... нават вочы не фарбуеш! А ў гэтым сезоне... Ой, ведаю я ўсё.

— Слухай, давай валасы — перакісцю...

— Не, лепш маску з аўса на твар...

— А я чула — вузкія клубы хутка з моды выйдуць...

— Ой, не пяражыць!

Карацей, мы садзімся абедзве на канапку, падцягваем столік з вазачкай цукерак і пачкам цыгарэт і разгортваем замежныя часопісы. Каляровыя, бліскучыя, як зоркі, прыгожанькія, як кветкі.

І па пакоі разносіцца стогн.

— А вось гэта, глянь...

— А тканіна якая!

— А колер!

Не, такі занятак зусім не спрыяе добраму настрою. На душы робіцца цёмна і страшненька, як на начным завулку. Замежныя дзеўкі, бы цукеркі, у такіх сукенках! У такіх калготках! Каб не адзенне, дык зусім сялянскія тварыкі. Калгас! Вось у гэтай ногі крывенькія, а ў той — вока касое. Іншая справа — мы з Вікай.



Ці вось яшчэ: конкурсы прыгажосці, ходзяць па той сцэне нейкія! А мы? Ну, чаму, чаму ніякі рэжысёр не бачыць у нашых постацях фігуры будучых кіназорак? А Віка вунь нават у хоры спявае і нейкую грамату мае! А я... ну, тут наогул ніякіх слоў не хапае!

— Слухай, а можа тыя ласіны хутка з моды выйдуць?

Віка круціць галавой:

— Ты што? Здурнела? На бліжэйшы год — ні ў якім разе. І ў кабак, і на лекцыю, і на "стрэлку" — толькі ў іх!

— А можа?..

Віка аж бялее ад роспачы:

— Не, кажу табе, не! І пакуль ты будзеш збірацца, то ўжо і за дзве з паловай не купіш!

Ха! Я і за пяцьсот не куплю. Хіба што ў марах. А і добра ж яны глядзяцца! Здалёк. І зблізу. І збоку. Пад міні-спадніцу. Пад доўгі пінжак. Пад... пад усё. Эратычна, шыкоўна, аж не вытрываць!

— Ну, а можа ў доўг?

— Мне мама не дазволіць.

— З якіх гэта часоў ты такая паслухмяная?

— З сённяшняга ранку.

Думай, галава, думай. І нашто табе звіліны дадзены?

— Я ведаю! Давай кожная з нас свайму каханаму зробіць лёгкі такі намёк, маўляў, свята хутка, а я, бы жабрачка, ласінаў не маю.

Мы хуценька выбягаем і на вуліцы ўжо апранаем свае футэркі. Кожная ляціць у свой бок. Трэба паспець. А яны мне — матэрыял у нумар! Ёсць справы і больш важнейшыя!

Ніна Пракопчык.

## *Постаці літаратуры*



Тамара Мазур



Твая прысутнасць, няхай і ўяўная
дае мне сілы на дальні шлях.
Быць самай лепшаю і самай слаўнаю
нязменна хочацца ў тваіх вачах.

Усё праходзіць, не ўсё збываецца –
такая ісціна жаночых слёз.
Даруй мне, любы,– не ўмею каяцца:
твая прысутнасць – мой шчасны лёс.





Ніна МАЦЯШ, паэтэса.

Малюнак Міхася ВЕЦІКА.



Лера Сом



Добры дзень, новы горад, бачу цябе
і ведаю гэты камень...
Я пазнаю твае купалы –
іх прыгадвалі сны...
Добры дзень, новы горад, я тут і мяне
не спалохае стомлены цень –
здань былога кахання
і першая проба вясны.
Я ўрастаю ў цябе, я раблюся
адным з камянёў.
І па мне ўжо чыесьці
абцасы таропка бягуць.
Працінае мяне павуцінне
старых каранёў,
дзень, другі – і без болю
камень не скрануць.
Толькі што мне губляць, калі я
ў гэткім болю жыву?
Лёс вандроўніка – шлях,
хто там першы пра гэта сказаў?
Падымуся. Пакрочу. Уздыхну.
Узніму галаву.
Новы дзень, новы горад!
Я сёння іду на вакзал.



Белая папера. Прыцемкі сумлення.
Разуменне межаў.
Сонечныя промні маюць дачыненне
да абрысу вежаў.
Мой тупы аловак выказаць не можа
радасці адчаю.
Хто святла шукае – памажы ім, Божа.
Я іх не страчаю.
Зорkавыя згадкі, першыя памкненні,
знічкі над гарою...
Вогнішча народзіць чорныя адценні
строяў і настрояў.
Дзеці шэрых гмахаў, прамакутных вуліц
цягнуцца ў вандроўку...
Хай заплечнік цяжкі, хай абутак мулкі,
хай іможа знoўку...
Сонечныя промні маюць дачыненне
да абрысу вежаў...
Белая папера. Прыцемкі сумлення.
Разуменне межаў.





Вольга Акуліч



Ты пачні, прашу, старую песню –
паспрабую навучыцца слухаць.
Ты распавядзі старую казку –
паспрабую навучыцца верыць.
Толькі я ані старым, ні новым
казкам, ідалам, бажкам – не веру.
Пры любых сістэмах і ўмовах
застаюся закаханай, вернай, непакорнаю –
заўжды жанчынай.

Хай бачыць Бог, што я цябе кахаю–
без запаветаў, проста, па-зямному.
Што ночы нашы не лічу грахамі,
і святатацтвам – нашы словы.
Хай бачыць Бог – я не баюся пекла
што вечнасць пекла прад хвілінай раю?
Без суму, роўна, велічна і светла –
хай бачыць Бог, што я цябе кахаю.





Ніна Загарэўская

*Вершы ў прозе*

### НЯМА СЭНСУ

Калі я памру, ты пасадзі на маёй магіле валошкі.
Хай цвітуць.
Можа, іншы раз, мнучы траву з каханаю, ты пачуеш пах блакітных кветак і ўспомніш пра мяне.
На помніку, калі захочаш яго паставіць, напішы срэбнымі фарбамі маё імя.
І калі-небудзь уборы тваёй улюбёнай нагадаюць, што некалі была я.
Агароджы не рабі – няма сэнсу берагчы памерлае.

### ДАЙ МНЕ СЛЕПАТУ

Не нарадзіся той, сваёй красою хто зможа зацьміць светлае.
А калі нарадзіўся, то дай мне слепату на тваю прыгажосць, каб не знішчыць любы вобраз.
А калі захочаш, каб усе бачылі тваё харaство, то навесь шыльдачку на сваёй душы, і я адна прачытаю: гэта – не ты.



Аксана Данільчык



Застацца сумным і святым спамінам.
Адзіны рух – на шлях да небыцця.
Шыпшынай белай быць і быць жанчынай
у гэтым сэнс, пачатак і працяг.
Усё само сабою. Нехта гоніць
жыццё без асаблівасцей, прыкмет,
ды дакранецца полымя далоні –
і свой пякучы ёй пакіне след.
А што лісты?.. Хто помніць, хто
не помніць,
куды сцяжынак беглі ручаі?
І чалавек у стане непрытомным
жывой вадою просіць напаіць.
Вазьмі – для гэтага не трэба красці.
Не трэба і жыццём ахвяраваць...
Застацца сумным і далёкім шчасцем,
якое давядзецца ўспамінаць.

Сінія шкельцы пабітага нечага
густа ўслалі асфальт.
Перабягае барвовае рэчыва...
Момант – разладжаны альт.
Так па ўспрыманні капрызнай мелодыі
шэрая пляма расце.
Вы падарунак тут не знаходзілі?
Хопіць. Паліце часцей.
Раз – цыгарэту. І раз – пакамечаны
з чорнай аздобаю ліст.
Перабягае барвовае рэчыва
горад каменнай зямлі.
І пачынаецца пошук прыніжаных.
Сутнасць імгнення – адчай.
І на кірунках сляпых чарнакніжнікаў
дотык рукі да пляча.





Вера Бародзіч



А я скажу: не трэба быць другім.
А я скажу: не трэба быць інакшым.
На згубу лепш каханне аддадзім,
чым злоснікі прылічаць нас да паўшых.

Няма шчаслівых на зямлі... Ці ёсць?
Мо тыя, што сустрэч не пазбягаюць,
кахаюць, а таму і добра знаюць,
што чалавек на гэтым свеце – госць.

Пакута, радасць, сум і адкрыццё...
Журба, каханне, вера і надзея...
Усё наша сучаснае жыццё –
трагікамедыя
ў няздзейсненых падзеях.

**Чалавеку, які засяліўся ў стайні**

Ён не жадаў штодзённа
пакуты жыцця цярпець...
І перад вячэрнім сутоннем
прыйшла на падмогу смерць.
З плоці сваёй турэмнай
ён выблытаўся, нябога...
Прымушаны мы дарэмна
маліць лепшай долі ў Бога.
Спрадвечныя страхі гнятуць
нашыя душы і целы...
І я раставарыцца, як ртуць,
у гэтым жыцці хацела б.




*Паданне*

# Пра князя Яраслава

У Тураве жыў калісь князь Яраслаў. Быў ён багаты і мудры, дык людзей каля сябе збіраў усё разумных ды мудрых.

Раз князь з гасцямі сваімі паехаў на ўловы біць цераў[1] і дзікіх вепраў. Многа было ўжо набіта ўсялякай дзічыны, але Яраслаў якраз, калі хацеў даць загад трубіць на збор, убачыў аграмаднага старога тура і пагнаўся за ім. Некалькі гартоўных княжых стрэл упіліся ўжо ў цела тура, але звер з падвойнай сілай уцякаў ад лаўца. Тады князь пачаў паганяць свайго каня, каб насцігнуць тура. Раптам тур спыніўся і павярнуўся ў бок князя. Конь з разгону наскочыў на тура і зваліўся, прабіты рагамі, прыціскаючы сабой князя. Яшчэ момант – і князь паплаціўся б жыццём на месцы. Але на гэтую хвіліну падаспеў загоншчык Ранцэвіч; ён зняў з сябе світку і накінуў яе на вочы туру ды хутка нажом ударыў звера ў самае сэрца. Тур нежывы рынуў на зямлю. Князь выкарабкаўся з-пад каня і, дзякуючы загоншчыку, сказаў, каб той прыйшоў у абоз да князя па ўзнагароду.

Калі загоншчык прыйшоў у княжы абоз, Яраслаў паставіў перад ім скрынку золата і сказаў:

– Бачыш, колькі тут золата, але жыццё даражэй за золата, бяры колькі хочаш.

Загоншчык быў чалавек мудры. Ён узяў пасашок, разгарнуў чырвонцы, каб пасашок упёрся ў дно скрынкі і сказаў:

– Праўда, князю, тут многа золата, але ўсё ж такі дно можна дастаць, дык, мабыць, гэта тваё золата – багацце не вечнае; калі-небудзь прыйдзе канец яму. Дый золата больш патрэбна князю, чым простаму чалавеку. Дай ты мне, княжа, гэткі дар, каб я ў ім дна знайсці не мог.

Князь задумаўся і кажа:

– Каб я сабраў усё сваё багацце, то і тады дно яму знойдзеш.

Засмяяўся загоншчык і кажа:

– Пойдзем, князь, я табе пакажу бяздоннае багацце.

І выйшаў на двор, узяў лавецкі меч і блізка ўвесь усунуў у зямлю.

– Вось тваё, княжа, багацце, у якім дна няма: яно ратару[2] больш вартае, чым тыя чырвонцы. Грошы могуць украсці, а гэтага ніхто не ўкрадзе.

Засмяяўся князь, спадабалася яму мудрасць загоншчыка і кажа:

– Праўду кажаш, дам табе зямлі на дзесятае пакаленне.

І, увайшоўшы ў шатры, напісаў князь Яраслаў дароўную грамату мудраму загоншчыку Ранцэвічу на ўсю акаліцу Вялемічы.

І дагэтуль у Мазырскім павеце, у вёсцы Вялемічы, жывуць Ранцэвічы і ў вялікай пашане, у цынкавай трубцы пераховаўваюць з роду ў род дароўную грамату князя Яраслава, а паказваючы яе, апавядаюць легенду пра свайго мудрага прашчура.

[1] Церы — цяцеры, цецерукі.

[2] Ратар — араты.

# САКАВІК

*Родны край* *Родны край*

*У гэтым месяцы таксама вясна сустракаецца з зімой, але цяпер ужо большасць сустрэч заканчваецца на яе карысць. Снег цямнее і асядае, кожны дзень звіняць капяжы і ўздоўж дарог прабіваюць шлях першыя ручайкі. Начны мароз хутка мурue першыя праталіны, але назаўтра веснавое сонца бярэ сваё і — будучае рэчышча становіцца ўсё шырэйшае і глыбейшае.*

## 3. Аўторак.

1067 — Першыя летапісныя звесткі пра Мінск і Оршу.

50 гадоў з дня нараджэння (1942) У.В.Кавалёнка, лётчыка-касманаўта.

## 6. Пятніца.

20 гадоў з дня заснавання ў Мінску (1972) выдавецтва "Мастацкая літаратура".

## 7. Субота.

80 гадоў з дня нараджэння Т.К.Хадкевіча (1912—1975), беларускага пісьменніка.

## 8. Нядзеля.

СА СВЯТАМ ВАС, ДАРАГІЯ ЖАНЧЫНЫ!

## 9. Панядзелак.

МАСЛЕНІЦА.

Масленіца дайшла да нас з далёкіх часоў. У народзе яе ўспрымаюць як развітанне з зімою і пярэдадзень вясны: "Масленка — бела вутка, гаварыла, вясна будзе, ды ня хутка".

У сваіх вытоках Масленіца звязана з пакланеннем язычніцкаму боству — Вялесу (Воласу). Вялес лічыўся апекуном статка і наогул усялякай жывёлы, у тым ліку і дзікай; дапаможца пастухам, ён спрыяе земляробству і павелічэнню сям'і. Шчыра ставіўся да сваіх абавязкаў Улас, што заступіў на месца Вялеса пасля прыняцця хрысціянства. Дарэчы, на абразах святы Улас заўсёды ў акружэнні кароў, коней і авечак, як добры гаспадар і апякун. Супадаючы па часе з днём святога Уласа, Масленіца ў некаторых месцах так і звалася: "Валоссе". Яшчэ беларусы называлі так: "Улас — каровінае свята". Адна з асноўных рыс свята — падкрэсленае ўрачыстае ўшанаванне малочнай ежы і страў, прыгатаваных на малацэ. Масленка прыходзілася на перыяд, калі ў сялянскіх гаспадарках ішоў ацёл і акот свойскай жывёлы, статак папаўняўся маладняком, з'яўлялася "новае" малако, пасля доўгага перапынку пачыналі несціся куры. Усё было гатова для масленічных бліноў, пшанічных і аржаных, аўсяных і з грэцкай мукі, прыпяканых бульбай, тварагом і каноплямі.

Свята, вядома, сустракаюць тым, чым багаты.

Масленка прыжылася і ва ўмовах гарадскога жыцця. Моладзь скакала, каталася з горак на санках, "лядзянках" і "маразянках". Каталіся на "доўгі лён" і "доўгія каноплі". Каб горы не былі "лысымі", іх утыкалі елкамі. Маладзіцы і дзяўчаты ўбіраліся ў лепшыя строі.

На Масленку добры гаспадар аб'езджваў каня. Лічылася, што конь тады будзе здаровым і ненавістным. У час Масленкі прысутнічала незвычайная весялосць, у хатах заставаліся толькі старэнькія бабулькі, што не маглі хадзіць. Людзі нібыта хацелі набрацца весялосці, смеху і радасці на ўвесь Вялікі пост, з усімі яго забаронамі.

У апошні дзень Масленкі палілі пудзіла, а попел раскідвалі на палі, каб яны сталі больш ураджайнымі. Праводзячы Масленку, па сутнасці, праводзілі зіму, развітваліся з голадам і хваробамі. Масленку, якая прыносіла "новае" малако, трохі лаялі, што яна "...абманшчыца, праляцела хутка, пасадзіўшы на Вялікі пост, на капусту белую і на рэдзьку горкую".

А.Райкова.

## 10. Аўторак.

405 гадоў назад (1587) г.Ліда атрымаў магдэбургскае права.

65 гадоў назад (сакавік 1927 г.) у Вільні выйшаў першы нумар часопіса "Заранка" (рэдактар Зоська Верас). Выходзіў да 1931 г.

## 11. Серада.

105 гадоў з дня нараджэння (1887—1920) Алеся Гаруна (сапр.прозвішча Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч), беларускага паэта.

70 гадоў з дня нараджэння (1922) М.І.Гамолкі, беларускага пісьменніка.

## 17. Аўторак.

70 гадоў з дня нараджэння І.С.Клаза (1922—1980), беларускага пісьменніка.

60 гадоў назад (1932) створаны Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР імя М.Горкага.

## 20. Пятніца.

130 гадоў з дня нараджэння А.Я.Багдановіча (1862—1940), беларускага этнографа і фалькларыста, бацькі Максіма Багдановіча.

## 22. Нядзеля.

50 гадоў назад (сакавік 1942 г.) пачаў выдавацца сатырычны лісток "Партызанская дубінка".

## 27. Пятніца.

МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ТЭАТРА.

## 29. Нядзеля.

1130 гадоў гораду Полацку, аднаму з самых старажытных гарадоў не толькі Беларусі, а і ўсходніх славян. Упершыню ў 862 г. упамінаецца ў "Аповесці мінулых гадоў".





# Паштовая скрынка



## Я — у ролі злучніка...

Беларуская літаратура. Марыя Дзмітрыеўна Міклашэвіч вядзе ўрок. Я папрасілася папрысутнічаць — і яна ахвотна дазволіла. Сяджу, назіраю, думаю... Хто я тут? Інспектар-метадыст з 11 "А"? Не, проста сёння я — у ролі злучніка. Можна перакінуць масток ва ўчарашні дзень, можна зноў успомніць. Некалі Марыя Дзмітрыеўна была нашай настаўніцай. Мы ўсе паважалі, любілі яе — за прынцыповасць, за бескампраміснасць. Мы і зараз сустракаемся, і яна распытвае пра нашы справы...

На яе ўрокі па прымусу не хадзілі. Праўда, напачатку было ўсялякае. Адна дзяўчынка прызналася нават, што саромелася гаварыць на гэтай мове, лічыла яе нейкай "забітай", "калгаснай". А зараз і з бацькамі размаўляе па-беларуску, і не толькі ў класе карыстаецца ёю.

Ідзе ўжо трэці ўрок беларускай літаратуры. Ідзе лёгка, дасціпна і проста. Інсцэніруюць "Пінскую шляхту" Дуніна-Марцінкевіча. Цікава і смешна бачыць хлопцаў ды дзяўчат, пераапранутых у акторскія касцюмы. І ім цікава — старанна, часам па-майстэрску раскрываюць свае сцэнічныя здольнасці. Такія інсцэніроўкі вельмі патрэбны. Яны дапамагаюць глыбей асэнсаваць твор, бліжэй адчуць атмасферу таго далёкага часу, лепей зразумець сатырычную накіраванасць. А самае галоўнае — яны далучаюцца да роднай мовы на практыцы.

Некалькі пытанняў пасля ўрока...

— Марыя Дзмітрыеўна, у вас ёсць нейкі свой, асабісты метад выкладання?

— Так. Гэта розныя алгарытмы, апорныя канспекты. Такая форма выкладання дасціпная, зразумелая вучням. А што да літаратуры, то тут не заўсёды патрэбен план. Заходжу ў клас і па вачах бачу, чым сёння лепш за ўсё заняцца. Ёсць на твары ўсмешка, значыць, пойдзе ў класе творчая работа і дзень, напэўна, удасца. Абавязкова будзем спрачацца, разважаць. Ну, а калі кіслы настрой, то і рэакцыя перадаецца па ланцугу, і мне таксама. Тады зоймемся канспектамі. Кожны ўрок — заўсёды імправізацыя.

— А ці сустракаюцца падводныя айсбергі?

— Ведаеш, выкладаю ў класе з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы, у матэматычным, фізкультурным і "звычайным" класе. І ў кожным розныя людзі. Патрэбен індывідуальны падыход. Вядома, у "беларускамоўных" класах намнога лягчэй, ды і цікавей.

— А што найважней для настаўніка?

— Навучыць правільна ўжываць беларускую мову, паглыбляць веды на практыцы. Ну, і, зразумела, развіваць творчыя здольнасці: маляванне, артыстызм, літаратурныя схільнасці. Зараз мае вучні чытаюць лекцыі ў іншых класах. Даю заданні на тыдзень і на два наперад. Вось нядаўна чыталі "Цынкавыя хлопчыкі" Святланы Алексіевіч. Неўзабаве яны напішуць рэцэнзію на гэту кнігу. Як настаўніка і нават проста як чалавека мяне цікавяць іхнія асабістыя думкі аб розных творах, з'явах, падзеях.

Збоку добра назіраць. Але час вяртацца і да сваіх урокаў. Іду і думаю, як слаўна, што ёсць яшчэ, засталіся добрыя, нераўнадушныя настаўнікі роднай мовы. Будзе мова — будзе і культура. А злучнікамі між імі павінны стаць мы самі. Хто ж яшчэ?

**Вольга Мацкевіч,**
**вучаніца СШ № 17**
**г.Мінска.**



## Хто ж будаваў Вавілонскую вежу?

Адраджэнне мовы — ёсць існаванне нацыі, яе жыццё. А за жыццё трэба змагацца. Якой жа хваравітаю наўраю пакрылася беларуская мова і якія антыцэлы пагражаюць ёй?

Найпершая бяда — гэта імкненне прадстаўнікоў выміраючай камандна-адміністрацыйнай сістэмы захаваць сваё панаванне любым шляхам. Дбайны гаспадар ніколі не дапусціць непарадку ў сваім доме. На гэта здольны толькі прышэльцы, чужынцы, якім усё роўна, дзе кіраваць, кім, абы кішэні былі поўныя. Заўтра без болю і жалю яны рынуцца на другое, наседжанае сістэмай, месца. Звычайна, наменклатуршчыкам і пенсіі давалі персанальныя, і кватэры выдзялялі ў абласных ды сталічных гарадах — абы з воч далей. Гэта і разбэсціла кіраўнікоў, знізіла ў іх пачуццё адказнасці перад калектывамі, якімі яны кіравалі.

Але, каб жыць з народам і быць паважаным, трэба найперш ведаць яго мову, патрэбы, імкненні, спадзяванні, бо перад чужынцам душа не раскрыецца. Прышэльцам жа не хацелася вывучаць мову нашага народа. А кіраваць няблага і на рускай мове. Вось так "дапамагалі" беларусам пачуць сваю нацыянальную годнасць. Адзін загад ці рашэнне — і для школьных падручнікаў на беларускай мове не хапае фондаў паперы, выхавальнікам дзіцячых садкоў не знаходзіцца работа, школы не могуць набраць беларускамоўных класаў, а вышэйшыя навучальныя ўстановы — групы студэнтаў-беларусаў. Адкуль жа брацца беларускай інтэлігенцыі?

Дзе сёння можна прачытаць праграму навучання або правілы прыёму ў навучальныя ўстановы, надрукаваныя па-беларуску? Сорамна робіцца за дзяржаву. Відаць, надоўга надзейна схавалі наменклатуршчыкі мову ад народа. І, нібы ў апраўданне, любілі расказваць легенду пра будаўніцтва Вавілонскай вежы. Але ж ніводзін Бог не здолеў бы так раз'яднаць людзей, як гэта па-майстэрску зрабілі яны, надзеленыя ўладаю, праводзячы сваю "нацыянальную" палітыку. У выніку здарылася так, што мы апынуліся на задворках еўрапейскай цывілізацыі.

Было б недарэчна вінаваціць ва ўсім рускіх, рускі народ. Проста сістэма спрабавала прыстасаваць для свайго карыстання элементы вялікаімперскага шавінізму. Наадварот, гісторыя ведае шмат прыкладаў, калі прагрэсіўныя колы рускага грамадства спрыялі ўтварэнню нацыянальнай пісьмовасці, мовы, літаратуры на ўскраінах. Высокаадукаваным выкладчыкам, якія прыехалі з Ленінграда, спатрэбілася ўсяго адзін-два гады, каб праводзіць заняткі ў створаным пасля семнаццатага года Беларускім дзяржаўным універсітэце на мове тутэйшага народа. Тое, што веданне розных моў з'яўляецца меркаю культуры чалавека, — бясспрэчна. Таму сумна, калі чалавек, атрымаўшы ў рэспубліцы адукацыю і займаючы добры дзесятак год адказную дзяржаўную або грамадскую пасаду, не ведае мовы рэспублікі і лічыць непатрэбным яе ведаць. Звычайна, гэта людзі даволі абмежаваных інтарэсаў. Што яны могуць перадаць сваім дзецям альбо падначаленым? Апраўдваюцца, нібы дбаюць найперш пра мяса ды хлеб. Толькі нешта не відно вынікаў іх дбайнасці.

Адраджэнне мовы не церпіць прамаруджвання. Трэба не прамаруджваць, але і не паспяшаць, як кажуць, курэй не насмяшыць. Мы ведаем, якая роля настаўнікаў у пашырэнні беларускай мовы. І таму не трэба закрываць вочы на тое, што большасць іх выступае супраць прапанаванай у хуткім часе карэннай рэформы беларускага правапісу. Гэта значыць, увядзення лацініцы. Насцярожанасць настаўнікаў, асабліва гарадскіх, мае пад сабою грунт. Як, напрыклад, змогуць бацькі ў горадзе дапамагчы сваім дзецям, калі беларуская мова пяройдзе на лацініцу? Для гэтага патрэбен час, арыентацыя на актыўных праваднікоў моўнай палітыкі з улікам існуючай рэальнасці. Гэтага нельга сказаць пра некаторыя ўдасканаленні беларускага правапісу, якія не носяць істотнага характару: правапіс падвоеных зычных і ўвядзенне мяккага знака паміж імі.

У перыяд адраджэння вельмі важна, каб інтэлігенцыя заняла цвёрдую пазіцыю па пытанню "Быць альбо не быць нацыянальнай мове і, значыць, гордасці, годнасці?" А на першапачатковыя два-тры гады варта ўвесці важкі матэрыяльны стымул для настаўнікаў і выкладчыкаў за працу на беларускай мове.

Я таксама даўно перакананы, што справаводства ў Беларусі павінна весціся на роднай мове. І чым хутчэй мы да гэтага прыйдзем — тым лепш.

**Янка Місуна.**

## ВОБРАЗЫ РОДНАГА КРАЮ

"Чалавек без памяці — паталогія. Таксама хворым з'яўляецца народ, што страціў сваю гістарычную памяць".

З такой высновы ў першым нумары "Маладосці" пачаў цыкл публікацый "Гісторыя Беларусі ў ілюстрацыях" Міхась Чарняўскі, вядомы навуковец, загадчык сектара археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі. Часопіс мае намер рэгулярна, на працягу двух гадоў, — а гэта 24 часткі — у папулярнай форме, пры вельмі сціслым, амаль тэлеграфным тэксце, але як мага шырэйшым ілюстрацыйным матэрыяле аднавіць нашу памяць. Задача дужа складаная, бо вырашаецца на Беларусі ўпершыню і, бадай, упершыню аб'ектыўна трактуецца наша нялёгкая, драматычная гісторыя, шмат разоў перад тым апошленая, перакручаная несумленнымі "вучонымі" савецкага часу і тэндэнцыйнымі даследчыкамі нашых суседзяў. На шчасце, за пасляваенныя гады ўзгадаваліся як не тры пакаленні сумленных гісторыкаў, якія ў даследаваннях мінуўшчыны абапіраюцца толькі на факты. Да іх, несумненна, належыць і Міхась Чарняўскі.

Думаецца, яго публікацыі зацікавяць усіх. Асаблівую ж карысць яны прынясуць настаўнікам, выкладчыкам, студэнтам, вучням, бо новага падручніка па гісторыі Беларусі пакуль што няма, а выдадзеныя дагэтуль напісаны паводле заганных ідэалогій. Веданне ж сапраўднай гісторыі пазбаўляе ад прыніжанасці, мацуе нацыянальную самасвядомасць, а без яе, як вядома, немагчыма дзяржаўная незалежнасць.

Раім усім, хто шануе праўду і пастаянна цікавіцца мінулым свайго народа, сачыць за публікацыямі Міхася Чарняўскага ў часопісе "Маладосць".



Беларуская мова гучыць у дзіцячым садку "Вясёлка", што ў горадзе Асіповічы. На роднай мове размаўляюць з дзецьмі выхавальнікі і нянечкі, з густам, у нацыянальных традыцыях аформлены пакой беларускіх народных казак, іншыя памяшканні. У гэтым годзе прыклад "Вясёлкі" збіраюцца пераняць многія гарадскія садкі.

**НА ЗДЫМКУ:**

- У пакоі беларускіх народных казак заняткі з дзецьмі праводзіць выпускніца Магілёўскага педінстытута Іна Заскевіч.

**Фота Валерыя Аляшкевіча (Белта).**

# «МЫ ЗНОЙДЗЕМ ВАС САМІ»

*Прапануем вашай увазе ўсяго два з соцень расказаў людзей, якія сутыкнуліся з іншапланецянамі ў 1991 годзе.*

"Гэта было 13 жніўня 1991 года каля 23 гадзін. Я вяртаўся на сваіх "Жыгулях" з пасекі: вуллі мае на дачы стаяць. Усё было нармальна, машына працавала добра. І раптам — ні з таго ні з сяго рухавік майго аўтамабіля заглух. Прычым было гэта так: спачатку грукат, накшталт стрэлу, а потым — мёртвая цішыня. Я з'ехаў на абочыну, вылез з машыны, адкрыў капот і пачаў шукаць паломку. Стаю спінай да дарогі, калупаюся ў спляценнях вузлоў і сістэм. І раптам — голас.

— Не турбуйцеся, яна завядзецца!

Паварочваю галаву ўправа і бачу цераз плячо: стаяць чацвёра! Адзін — уперадзе, амаль ці не ў метры ад мяне, а трое адразу ж за ім. У таго, што наперадзе, на ўзроўні жывата нейкая скрыначка, прыблізна 6 на 10 см. Ён трымае яе адной рукой. У цэнтры скрыначкі нешта свеціцца яркім чырвоным колерам. Я спытаў:

— Хто вы такія?

А мне ў адказ не зусім дружалюбна:

— Не твая справа!

І тут ужо крыху мякчэй з ноткамі пахвалы ў голасе:

— Ты першы чалавек, які нас не спужаўся.

Я зноў за сваё:

— А што, уласна кажучы, здарылася?

— Нічога! Не жадаеш з намі адправіцца?

— А куды?

Скрыначка ў руках невядомага зноў павысіла голас:

— Не твая справа! Згаджайся — не пашкадуеш.

Не ведаю, як разгортваўся б далей наш дыялог, але ў гэты час са скрыжавання ў наш бок вывернула машына і пырснула








далёкім святлом. Я ўбачыў, як ненатуральна зазіхацелі касцюмы ў маіх суразмоўнікаў. І тут жа пачуў голас са скрыначкі:

— Сядзіся і едзь. Калі спатрэбішся — мы цябе знойдзем.

Яны развярнуліся, абышлі ззаду маю машыну, спусціліся ў кювет і накіраваліся ў бок лесапаласы. Аўтамабіль сапраўды завёўся, як ні ў чым не бывала. Разглядзеў я іх нядрэнна, усе — аднолькавыя. Той, што стаяў побач са мною, быў прыкладна мне да броваў, а значыць, рост іх у межах 160 см. Галава вялікая, зверху як бы прыплюснутая. Вочы таксама вялікія, пукатыя, памерам з курынае яйка. Нос пляскаты, рот вельмі вялікі, падобны на глыбокі разрэз. Вуснаў няма. Заўважыў таксама шмат дробных зубоў. Гэтыя істоты былі цалкам зацягнуты ў цёмныя ці то касцюмы, ці то скафандры. Рукі доўгія, да каленяў. Плечы і прадплечча добра развітыя. Ступні вельмі вялікія, дзесьці каля 40 см.

Прасачыўшы праз задняе шкло, як яны адыходзілі ў бок лесапаласы, я націснуў на газ і хутчэй памчаўся з гэтага месца. Толькі пазней да мяне прыйшоў страх".

* * *

"17 сакавіка 1991 года каля 17 гадзін я вяртаўся дадому. Раптам прама перада мною са скавытаннем і ненатуральным брэхам прамчаўся сабака. Я агледзеўся: што магло яго так напужаць? І са здзіўленнем убачыў метраў за 10 ад сябе над травою, на вышыні паўметра, вялізную празрыстую мыльную бурбалку. Яна пералівалася ўсімі колерамі вясёлкі і павольна рухалася да мяне. У мяне скавала ногі. Шар спыніўся ў метрах 5—6, пачаў мутнець, потым стаў серабрыстым, на яго паверхні добра праглядацца ячэістая структура з трохграннікаў. Потым ён перастаў разгойдвацца і трывала павіс над травою. Менавіта павіс, таму што не сагнуў ніводнай травінкі. Праўду кажучы, стала страшна. Раптам на паверхні шара адкрылася шчыліна, унутры мігцела ружовае святло, з праёму выйшаў, дакладней, марудна вылецеў серабрыста-блакітны манекен і стаў у метры ад мяне. Ён быў вышэй за мяне, зграбны, абцягнуты металам, без адзінага шва, прама ад плячэй пачыналася масіўная галава курганом, у цэнтры якой было адно вока, але гэта хутчэй не вока, а акуляр, бо за яго матавым вокам нічога не рухалася. Раздаўся лёгкі свіст, штосьці падняло мяне, перавярнула ў гарызантальнае становішча, я паплыў у чэрава шара. Дзіўна, але ў мяне знік страх.

Я апынуўся ўнутры вялізнай лінзы. Да гэтага часу здзіўляюся ўнутраным памерам карабля, разы ў чатыры большым за знешнія, прыкладна метраў 20 у дыяметры. Мяне пакінулі вісячым над падлогай у прасторы. Нехта падышоў да мяне і надзеў на галаву нешта падобнае на шлем. І адразу ж я пачуў голас:

— Не бойся, з табой нічога дрэннага не здарыцца. Мы хочам з табою пагаварыць, калі ты згодзен.

Я адказаў:

— Я згодзен, але мне нязручна размаўляць лежачы.

— Прымі зручнае для цябе становішча.

Я прыўзняў тулава і апусціў ногі. І павіс седзячы.

Перадаю размову так, як я яе запомніў.

Яны: Як доўга ты жывеш?

Я:— 64 гады.

Яны: Вы можаце растлумачыць нам вашу сістэму ліку?

Я:— У нас дзесяцічная сістэма. Узнікла яна таму, што ў чалавека на руках дзесяць пальцаў.

Але атрымаўся канфуз: у мяне на руках усяго 8 пальцаў, два я страціў на фронце. З цяжкасцю мне ўдалося гэта растлумачыць.

Яны:— Што такое вайна?

Я: — Гэта калі група народаў шляхам забойстваў імкнецца скарыць другі народ. Мэта вайны — гэта захоп улады або зямель іншых народаў.

Яны: — Як пабудавана ваша грамадства?

Я:— Існуе прыкладна каля 180 розных дзяржаў, якія імкнуцца ўзаемадзейнічаць разам, але рэдка давяраюць адзін аднаму.

Яны:— Як часта бывае вайна?

Я:— Па-мойму, яна заўсёды дзесьці ідзе, то ў адным, то ў другім месцы Зямлі. Можна мне задаць пытанне?

Яны: — Задавайце.

Я:— Адкуль вы ведаеце нашу мову?

Яны:— Мова — гэта адлюстраванне думкі. Думка — гэта камбінацыя палёў, і ва ўсім Сусвеце гэта камбінацыя аднолькавая. Таксама складзена і памяць.

Яны:— Як далёка прасунулася ваша навука ў пазнанні свету?

Я:— Я маю аб гэтым вельмі нязначнае ўяўленне. Яно заснавана на выпадковых артыкулах у папулярных часопісах. Я думаю, што вы зрабілі памылку, калі выбралі мяне. Чаму б вам не пайсці на прамы кантакт з нашымі вучонымі?

Яны:— Мы хочам запісаць вашу памяць, усё, што яна накапіла за ваша жыццё. Вы згодны?

Я:— Мне гэта не пашкодзіць?

Яны:— Не. Заплюшчыце вочы.

Праз некаторы час з мяне знялі шлем, я паплыў у зноў адчыненую шчыліну і стаў на ногі на дарозе. Шар зачыніўся. Потым ён пачаў свяцілець, зноў прыдбаў адценне перламутру і празрыстасць, рэзка падняўся ўверх і за 2—3 хвіліны схаваўся ў небе".



У шматлікім багацці беларускай фальклорнай спадчыны ёсць такія вуснапаэтычныя жанры, якія актыўна падлягаюць пастаяннай творчай перапрацоўцы ці дапаўняюцца новымі варыянтамі і зместам. У першую чаргу да іх адносяцца прыпеўкі, анекдоты, загадкі, прымаўкі, прыказкі, выслоўі — альбо, гаворачы іншымі словамі, усе тыя фальклорныя жанры, якія цесна звязаны са штодзённым жыццём чалавека і яго разнабаковай дзейнасцю.

Сярод іх прыпеўка, бадай, найбольш любімы і распаўсюджаны на нашай этнічнай тэрыторыі жанр. У любой кампаніі, на вечарынках (ці то ў горадзе, ці ў вёсцы) прыпеўкі з задавальненнем спяваюць як людзі старэйшага ўзросту, так і моладзь.

Пад акампанемент гармоніка і бубна тая ці іншая спявачка, прытанцоўваючы і прыпяваючы, можа стварыць непаўторныя хвіліны весялосці, гарэзлівасці, спрыту і з'едлівай сатыры нават на тых, хто ў гэты момант зайздросна пляскае ёй у такт далонямі.

Кароткая па зместу, але вельмі трапная па выразнасці, гумарыстычнаму або сатырычнаму каларыту, прыпеўка нярэдка ствараецца непасрэдна ў працэсе гучання пэўнай танцавальнай мелодыі. Такая творчая ініцыятыва перапрацоўкі вядомых прыпевак ці стварэння новых найбольш характэрна тады, калі прыпеўкі спяваюць дзве, тры, а то і больш спявачак, калі кожная з іх імкнецца паказаць не толькі сваё ўменне спяваць і прыгожа прытанцоўваць пад музыку, але па магчымасці захапіць слухачоў навізной і нечаканасцю сюжэта, складзенага ёю тэксту. Па сваёй праблематыцы такія прыпеўкі часцей за ўсё абмяжоўваюцца характарам мясцовых падзей і канкрэтных асоб, хоць часам падобны матэрыял і падаецца ў форме пэўнай рэтушаванасці і двухсэнсоўнасці.

Творчы патэнцыял прыпеўкі дае ёй магчымасць захоўваць у сабе адметныя моўныя рысы той лакальна-этнічнай тэрыторыі, на якой яна ствараецца і бытуе. І таму, як і ў многіх іншых фальклорных жанрах, мова прыпевак данесла да нас прыгажосць і багацце размоўнай і дыялектнай лексікі, з дапамогай якой тэксты прыпевак здольны ўключаць у сябе найбольш трапныя, мілагучныя і непаўторныя выразы, заключаныя ў чатырох- ці шасцірадковых куплетах.

Вобразнасць беларускіх прыпевак вельмі стракатая і вызначаецца перш-наперш тыповымі героямі вячорак ці нейкай этна-сацыяльнай групы. Сярод іх вызначаецца гарманіст, які заўсёды з'яўляецца душой любой вечарынкі, каханы, да якога звернуты лепшыя словы дзяўчыны, саперніца, вобраз якой падаецца ў самых адмоўных фарбах, і многія іншыя. З асаблівым замілаваннем і любоўю ў прыпеўках перадаецца прыгажосць роднага краю і сваёй вёсачкі. У залежнасці ад стварэмага вобраза прыпеўкі аб'ядноўваюцца ў характэрныя цыклы і групы.

Здольнасць прыпеўкі надзённа і востра адлюстроўваць падзеі часу ставіць яе ў адзін рад з анекдотам. Тым больш, што гэтаму цыклу прыпевак характэрна тая ж сатырычная вастрыня і гумар, што і анекдотам. Гэта, у першую чаргу, датычыць тых тэкстаў, якія адлюстроўваюць наш лад, грамадскія і палітычныя працэсы і штодзённыя падзеі, якія адбываюцца ў нашым грамадстве.

У традыцыйным беларускім фальклоры прыпеўкі могуць аб'ядноўвацца і па тыпу характэрнай мелодыкі, рытмікі, сюжэтыкі, матываў, якія спяваюцца на агульнавядомыя танцавальныя мелодыі "Лявоніха", "Сямёнаўна", "Сербіянка", "Страданія", "Зялёная рошча", "Цыганачка", "Рускі", "Шахцёр", розныя полькі і многія іншыя.

Запісы прапануемых увазе чытача прыпевак зроблены ў студзені гэтага года ў вёсцы Баева Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. У іх тэматыцы любоўныя, жартоўныя і сатырычныя матывы.



# «ПОЙЦЕ, ДЗЕВАЧКІ, ПРЫПЕВАЧКІ...»

* * *

Усё б я пела, усё б я пела,
Усё б я весялілася,
Кабы первая любоў
Назад вараціласся.[1]

* * *

Няма ў мяне голасу
Стала я хрыпучая,
То ізмена, то любоў –
Яна мяне змучыла.

* * *

Ох, "Цыганку" танцаваць
Навучыла мяне маць:
А дзе хлопцы харашы –
Там "Цыганачку" пляшы.

[1] Апошнім часам, у лексіцы прыпевак праяўляецца такі негатыўны бок, як ужыванне беларуска-рускай моўнай "трасянкі". Гэта з'ява, нават на вёсцы, стала ўжо даволі прыкметнай. І паколькі фальклор, як мастацтва народнае, гучыць на мове яго творцаў, у прыведзеных у публікацыі прыкладах гэта мова падаецца без змянення, што і тлумачыць шматлікія русізмы, якія сустракаюцца ў тэкстах.

* * *

Эх, спасіба, мамінька,
Што скатала валенкі,
Валенкі з галошамі,
Гуляй, дачка, з харошымі.

* * *

На адном акошке роза,
На другом – цвет галубой,
Лучшэ з маменькай прашчацца,
Чым з табой, мой дарагой.

* * *

Новы дом, новы дом,
Занавесачкі кругом,
Чэраз года паўтара
У етым доме буду я.

* * *

Ох, саперніца мая,
Якая ўна хвалёная,
У семярых вадах памыта –
Усё раўно зялёная.

* * *

Дзе саперніца стаіць –
На ёй юпачка гарыць.
"Верлавокая зараза", –
Так і буду гаварыць.



* * *

Я іду, а бабы судзяць
У калодца нашага.
Ох, не судзіця, не баюся
Нагавору вашага.

* * *

Ельнік рэдак, ельнік рэдак,
А сасоннічак густой,
Слава Богу, слава Богу,
Што мой мілы халастой.

* * *

Гаварэць, што я старуха,
А мне ўсё ня верыцца,
А як выйду я плясаць
На мне ўсё шавеліцца.

* * *

Песні пой, пакуль паёцца,
Замуж выйдзеш – не прыдзёцца,
Не прыдзёцца песні пець,
Прыдзёцца горушка цярпець.

* * *

Вы патопайце, бацінкі,
Мне ў вас больш не скакаць
Выйду замуж, вас пастаўлю
Доўга будзеце стаяць.

* * *

Гарманіст красіва граець
Удараець па басам,
А я тожа ўдараю
Па кудравым валасам.

* * *

Гарманіста я любіла,
Слухаць бегала за лес,
Значыць, у яго любові
Нахадзіла інтарэс.

* * *

Ох, гармошачка мая,
Планачкі блішчастыя,
Гарманісты для кахання
Хлопцы падхадзяшчыя.

* * *

Пойце, дзевачкі, прыпевачкі
Гармошачке ў лад.
Няхай хлопцы палюбуюцца
На нашых на дзяўчат.

* * *

Гарманісцік, гарманісцік,
Гарманісцік розачка,
Еслі можна, гарманісцік,
Весялей нямножачка.

* * *

А гарманісту за ігру –
Рубашачку сінюю,
Дзве дачкі, чатыры сына
І жану красівую.

* * *

Мілы замуж мяне браў,
Мне мільёны прэдлагаў,
Дура я тагда была:
Хоць бы соценьку ўзяла.

* * *

А ў міня мілёнак есць –
Срам па вуліцы правесць,
Возчыкі ругаюцца,
Што лошадзі пугаюцца.

* * *

Усе на танцы да нас хлопцы,
Усе прыйшлі, прыехалі,
Усе прыйшлі, прыехалі,
Ну, а майму ўсё некалі,
Бо на маём чудаке
Баранаваць паехалі.

* * *

Прыхадзі, мілый, гуляць
Прывадзі сястру і маць,
Прывадзі сваю камісію
Нявесту выбіраць.

* * *

Мяне мілы ізменяець,
Як калёсы на хаду,
А я яго памаленечку
Да гроба давяду.

Ох, ты, міленькі ты мой,
Давяду дык давяду,
Давяду, што не ўгадаеш,
Сколька месяцаў у гаду.

* * *

Мяне мілы не цалуіць
Гаварыць: "Пасля паста",
А любоў без пацалунка,
Што карова без хваста.

* * *

Мой мілёнак, як цялёнак,
Кучаравы, як баран,
Нікуды яго не дзену –
Не зарэжу, не прадам.

* * *

Мой мілёнак, як цялёнак,
Кучаравы, як баран,
За мной ходзіць, кальцо просіць,
Пабажылася – не дам.

* * *

А я з міленькім гуляла
Ня ведала, што храмой,
А я йду дарогай прама,
Ён кавыль-кавыль за мной.

* * *

А я з міленькім гуляла
Ня ведала, што касой,
А я йду дарогай прама,
А ён лупіць паласой.

* * *

Мяне сваталі сваты,
Ды чаму, мілы, не ты,
Чаму ты, мой дарагой,
Не пайшоў на перабой.

* * *

Дзевак многа, дзевак многа,
Дзевак некуда дзяваць,
З Масквы далі ўказанне –
Дзеўку з дзеўкаю вянчаць.

* * *

Мамінька радзімая,
Работа лашадзіная,
Толька нету хамута
Ды раменнага кнута.

* * *

У магазіне прадавец
Абазваў мяне свіннёй,
Людзі думалі свініна,
Сталі ў вочарадзь за мной.

* * *

Пакуль дайшло да Міхаіла,
Пакуль дайшло да Гарбача,
Пілі водку мы з бутылак,
Сталі піць і з гарлача.

* * *

А спасіба Міхаілу
За заботу Гарбачу,
Калі выпіць я захочу,
То і сотню заплачу.

Ул.Сысоў,
малодшы навуковы
супрацоўнік Інстытута
мастацтвазнаўства,
этнаграфіі і фальклору
АН Беларусі.



# АМАЗОНКІ жывуць побач

**Аляксандр Альфрэдавіч Гарбоўскі сумесна з Юльянам Сямёнавым напісаў кнігу "Закрытыя старонкі гісторыі". Адзін з раздзелаў гэтай кнігі прысвечаны амазонкам. Пра гэта мы і размаўляем.**

— Аляксандр Альфрэдавіч, дзе Вы знайшлі сляды амазонак?

— Ва ўсіх куточках зямнога шара. Напрыклад, на Усходзе, дзе жаночая гвардыя абараняла старажытнаіндыйскага цара Ашоку. У Афрыцы, дзе ведалі, што жанчыны могуць быць бясстрашнымі воінамі. У Расіі таксама. У часы Пятра І лейб-медык Готліб Шобер, пабыўшы на Каўказе, прывёз звесткі аб "жаночых племёнах". Жанчыны там панавалі, а мужчынам адводзілася чорная праца па гаспадарцы. Да зброі, якою жанчыны валодалі ў дасканаласці, мужчынам забаранялася дакранацца.

– Выходзіць, амазонкі – гэта не проста прыгожая легенда?

— Вядома, не. На Каўказе, у Паўночным Прычарнамор'і выяўлены старажытныя пахаванні, дзе побач з пацеркамі ляжалі баявыя нажы, шчыты і даспехі. А вось прыклад з больш бліжэйшага часу — канца мінулага стагоддзя. Каланіяльным батальёнам французскіх войск у Дагамеі прыйшлося весці ўпартыя баі не з легендарнымі, а зусім рэальнымі амазонкамі. Гэта былі адважныя воіны — сапраўдныя пантэры. Жанчын—целаахоўніц мясцовага караля—так і назвалі — "жонкі-пантэры", а састарэлых сваячак каралеўскай сям'і, якія таксама ўдзельнічалі ў бітвах, — "маці-пантэры".

– А назва славутай ракі нейкім чынам звязана з амазонкамі?

— Так. Індзейцы, якія жывуць на берагах гэтай ракі, гаварылі аднаму са спадарожнікаў канкістадора Пісара Арэльянэ пра жанчын-ваіцельніц, называючы іх "каньяпура". Хутка іспанцы з імі сустрэліся. Вось што пісаў манах-дамініканец Гаспадрэ Карвахель, які прайшоў шлях у атрадзе Арэльяны: "Калі індзейцы даведаліся аб нашым набліжэнні, яны паслалі па дапамогу, і з'явіліся 12 жанчын-амазонак, якія змагаліся наперадзе ўсіх... Гэтыя жанчыны былі зусім без вопраткі. Яны светласкурыя і дужыя, выдатна складзены, высокія, зграбныя, маладыя. Узброеная лукам і стрэламі, кожная з іх вартая дзесятка індзейцаў..."

– У сваёй кнізе Вы ўпамінаеце, што да нашых дзён захавалася асаблівая "жаночая мова"...

— У Паўночнай Амерыцы ў раёне Місісіпі еўрапейцы выявілі племя індзейцаў натчы. Акрамя агульнай мовы, на якой гаварыла ўсё племя, у жанчын існавала свая тайная мова або жаргон. У туарэгаў (Паўночная Афрыка) дагэтуль захавалася адрозненне паміж жаночым і мужчынскім пісьмом. Калі мужчыны карыстаюцца арабскім шрыфтам, то сярод жанчын распаўсюджана пісьмо ціфінаг — вельмі старажытнага паходжання, якое бярэ вытокі ў дамусульманскім перыядзе. Шэраг этнографаў лічыць, што асобныя жаночыя мовы, якія пільна абараняліся ад непасвячоных, — памяць аб тайных саюзах жанчын, якія змагаліся супраць улады мужчын.

– Цікава: ці захаваліся да нашых дзён такія саюзы? Ці можна сёння дзе-небудзь убачыць амазонак?

— Тайныя саюзы жанчын яшчэ існуюць. Сярод іх такія, як "Ніенга", "Лезіму" ў Афрыцы, якія спакон веку трымалі ўсё мужчынскае насельніцтва ў пастаянным страху. Некаторыя даследчыкі, гаворачы аб такіх жаночых саюзах, упэўнена дабаўляюць да іх азначэнне "тэрарыстычны".

Астравок знікаючага царства жанчын знайшла ў Малайі італьянская журналістка Арыяна Фалачы:

"Я ўжо ведала, што ў гэтым плямені адзіныя ўладальніцы зямлі — жанчыны, што землі атрымліваюць у спадчыну толькі дочкі, што мужы селяцца не разам з жонкамі, а воддаль ад іх, у бацькоў, а да жонак прыбываюць толькі па іх запатрабаванню.

"Правадыр" запрасіла мяне ў дом. Тут я ўбачыла стары грамафон, а побач з ім стаяла зусім сучасная швейная машынка.

— Гэта пасаг майго мужа, — растлумачыла адна з жанчын.

— А дзе ён цяпер жыве?

— У сваёй маці. Я адправіла яго. Ён не любіць працаваць, не дапамагаў збіраць каўчук, дрэнна рыхтуе абед. Не хачу ўтрымліваць трутня.

У сваю чаргу я расказала, што ў Еўропе мужчына лічыцца галавой сям'і, што жанчыны і дзеці прымаюць яго прозвішча.

— Дык, можа быць, у вас жанчына слухаецца і загадаў мужчыны? Можа, ён прапануе ёй шлюб?

Я ківаю ў адказ, згаджаюся.

Жанчыны глядзяць на мяне падазрона і не вераць".

* * *

*Прыйдзецца, напэўна, згадзіцца з Аляксандрам Альфрэдавічам: амазонкі і сёння жывуць побач з намі. Жанчыны служаць і ў ізраільскай арміі, і ў арміі ЗША. Гераіня нарыса Арцёма Баравіка ў "Огоньке" заяўляе: "Толькі ў арміі я адчула сябе поўнасцю раўнапраўнай з мужчынам". Яна пакінула мужа, які забараняў ёй служыць. Вельмі любіць скакаць з парашутам. Але не забывае і пра свае мацярынскія абавязкі: устае ў пяць раніцы, каб накарміць дзіця і адправіць яго ў яслі!.. У нашай арміі ёсць жанчыны-палкоўнікі, з'явілася першая жанчына-генерал у КДБ. Напэўна, ва ўсіх краінах свету ёсць жанчыны-паліцэйскія, прыватныя дэтэктывы. З'явіліся жанчыны-целаахоўнікі, у тым ліку і ў нашай краіне. Я размаўляў з імі, бачыў іх "у справе" і пераканаўся, што яны ні ў чым не ўступяць мужчыну, а ў нечым і пераўзыходзяць. Ды і ў спорце не засталося чыста мужчынскіх відаў.*

**Уладзімір Дзмітрыеў.**



## Дайджэст

* * *

Біблія напісана жанчынай. Гэта сцвярджае прафесар Йельскага універсітэта Гарольд Блюм. Ён лічыць: боская воля кіравала пяром, якое трымала ў руцэ 40-гадовая арыстакратка пры двары цара Саламона (X стагоддзе да н.э.).

Якія аргументы прыводзіць прафесар на карысць сваёй версіі? Ён сцвярджае, што ў Бібліі вельмі шмат месца адведзена жанчынам (напрыклад, Еве адведзена ў шэсць разоў больш тэксту, чым Адаму), і што зрабіць так магла толькі жанчына.

* * *

Самым старым чалавекам у свеце, чыя дата нараджэння дакументальна пацверджана, з'яўляецца Кэры Уайт. Яна нарадзілася 18 лістапада 1874 года ў Гадсэне, ЗША. Зараз жыве ў доме для састарэлых у мястэчку Палатка штата Фларыда.

* * *

Доктар Бэтсі Забароўска, псіхолаг з Балтымара, ужо шмат гадоў кіруе тэрапеўтычным цэнтрам для жанчын. Яе даследаванні даюць магчымасць зрабіць вывад, што непаўналетнія дзяўчынкі і дзяўчаты пасля 20 гадоў імкнуцца быць непадобнымі на сваіх маці, але з гадамі ўсё часцей паўтараюць іх рысы. Аднолькава рэагуюць, размаўляюць і думаюць, неасэнсавана пераймаюць іх стыль адзення. Больш таго, падбіраюць такі ж тып мужчын і гэтак жа з імі сябе паводзяць.

* * *

У сям'і амерыканкі Караліны Кемін пяць дзяцей: Кэтрын нарадзілася ў 1952 годзе, Кэрал — у 1953, Чарлз — у 1956, Клод — у 1961, Сесілі — у 1968. І ўсе яны з'явіліся на белы свет 20 лютага! Верагоднасць нараджэння ў адзін дзень такой колькасці дзяцей ад адной маці — 1 да 17.297.577.730.

Практычнай гаспадыні

# Старыя рэчы яшчэ паслужаць!

*Уменне эканоміць становіцца ўсё больш актуальным для нас. Авалодаць гэтым майстэрствам не так складана — калі пастарацца, паступова з'явіцца звычка берагчы кожную рэч, і нават самыя старыя з іх будуць здавацца карыснымі, бо вы зробіце іх такімі.*

Пачніце з самага простага. Пэўна, вы заўважылі, што падкоўдранікі хутчэй зношваюцца па верхняму краю, а прасціны — пасярэдзіне. І тыя, і другія не спяшайцеся выкідваць і пускаць на анучы. Рэчы яшчэ паслужаць вам, калі вы не пашкадуеце крыху часу і намаганняў.

Адрэжце зношаны край падкоўдраніка і надстаўце яго бакавымі кавалкамі прасціны.

З трох падкоўдранікаў, якімі ўжо немагчыма карыстацца, можна пашыць два паўнацэнныя.

Зношаную прасціну разрэжце напалам уздоўж і сшыйце так, каб больш моцныя яе кавалкі апынуліся пасярэдзіне.

Па такому ж прынцыпу можна аднавіць стары ручнік: выразаць з яго рваныя і пацёртыя месцы, сшыць цэлыя кавалкі, а яшчэ лепш скамбінаваць два ручнікі. З кавалкаў ручніка для посуду можна зрабіць сурвэткі.

У начных баваўняных кашулях хутка зношваецца верхняя частка. Адрэжце яе — добрая ануча атрымаецца. А з таго, што засталося, калі гэта моцная яшчэ ніжняя частка, можна пашыць навалачку.

Мужчынскія кашулі светлага колеру з ільняных, паркалёвых і штапельных тканін лёгка перашыць на фартух ці на тую ж навалачку.

Цяпер успомніце, калі ласка, пра тую частку вашага гардэроба, якая даўнымдаўно ляжыць дзесьці на далёкіх паліцах і антрэсолях.

Паспрабуйце паглядзець на сваё старое, забытае адзенне і абутак свежым позіркам. Не бойцеся самых смелых ідэй, якія напаткаюць вас. Выходзьце не з былога фасону і аздобных элементаў, а з фактуры тканіны, з якой выраблена адзеная рэч. Шырокія магчымасці дае камбінаванне матэрыялаў — тэкстылю, вязанага палатна, замшы, скуры.



Пра скуру размова асобная. Цяжка параўнаць з ёй яшчэ які-небудзь матэрыял па эластычнасці, камфортнасці, даўгавечнасці. Скура "дыхае", прапускае паветра і вільгаць, валодае цудоўнымі ахоўнымі якасцямі. Высокія эстэтычныя яе вартасці робяць скуру незамяняльнай для аздобы, дэкарыравання рэчаў.

Вы, зразумела, заўважылі, што скураныя вырабы зношваюцца нераўнамерна: у месцах згібаў знікае фарба, скура трэскаецца, але некаторыя дэталі яе пры гэтым застаюцца практычна новымі. Таму нельга выкідваць скураныя сумкі і партфелі, у якіх сапсаваліся ручкі, абшарпаліся краі ці зламаўся замок, пальчаткі з парванымі пальцамі ці без пары і г.д. Цэлае багацце — старое скураное паліто, куртка, пінжак ці спадніца з сур'ёзнымі дэфектамі, якія выключаюць магчымасць насіць рэч у першапачатковым выглядзе.

Каштоўная сыравіна — абутак. Нават у самых зношаных жаночых ботах звычайна застаюцца цэлымі халявы. Іх абавязкова трэба выкарыстаць!

Дапусцім, вы шыеце новы касцюм ці сукенку. Зэканомленая дзякуючы старым рэчам скура дапаможа вам дадаць да новага гардэроба цікавыя дэталі: з яе можна зрабіць пояс, аплікацыю...

Перад тым, як пачаць нешта вырабляць са скуры, яе трэба "амаладзіць". Спачатку ачысціце скуру мокрай анучай. Потым памыйце з правага боку цёплай вадой з мылам. Затым змыйце пену чыстай вадой. Сачыце за тэмпературай вады: ад вельмі гарачай скура "дубянее", а халодная не размякчае яе. Цяпер крыху адцісніце скуру рукамі і расцягніце на дошцы правым бокам уверх.

Дэталі нацягваем спачатку ў падоўжаным, а потым у папярочным напрамку. Каб зафіксаваць атрыманыя памеры кавалка, прыбіваем скуру цвікамі да дошкі праз кожныя 2-3 см (у залежнасці ад таўшчыні скуры). У працэсе расцяжкі цвікі даводзіцца некалькі разоў перабіваць, каб не было перакосу дэталі.

Скура сохне паўгадзіны. Потым яе трэба тлусціць: на ватны тампон нанесці звычайны крэм для скуры і старанна яго ўцерці ва ўсю паверхню, затым сухой губкай паліраваць яе да з'яўлення бляску. Светлую скуру лепш змякчаць не крэмам, а малаком.

Прыкладна праз дзень скура прасохне, яна павінна атрымацца ў нас гнуткай, чыстай, бліскучай як новая! Калі вы не будзеце выкарыстоўваць яе адразу, складзіце дэталі адна на адну правым бокам уверх, загарніце ў поліэтыленавы пакет, каб не сохлі. Прыйдзецца перыядычна перакладаць і праветрываць скуру. Захоўваць у халаднаватым месцы.

***

Гатуем смачна

## ТАРТЫ

### Бісквітны

*Яйкі (6 шт.), цукар (6 ст.лыжак), мука (4 ст.лыжкі), крухмал (1 ст.лыжка).*

Разбіць у каструлю яйкі, усыпаць цукар. Каструлю паставіць на вадзяную лазню (г.зн. апусціць у ёмкасць большай велічыні з кіпячай вадой) і падагрэць да 40–50°, увесь час узбіваючы. Калі маса нагрэецца, зняць каструлю з вадзяной лазні, працягваючы ўзбіваць, пакуль маса не астыне да 18–20°. Аб'ём масы павінен павялічыцца ўдвая. Дадаць муку і крухмал, злёгку перамяшаць да атрымання аднароднага цеста.

Духоўку папярэдне сагрэць. Узбітае цеста выліць у змазаную маслам і злёгку прыпудраную мукой форму. У першыя 10–15 хвілін духоўку адкрываць нельга, бо цеста асядзе. Выпякаць, пакуль не зарумяніцца скарыначка.

Гатоўнасць бісквіта можна вызначыць, калі праткнуць яго запалкай або палачкай. Калі палачка сухая – бісквіт гатовы.

Выпечаны бісквіт астудзіць і дастаць з формы. Разрэзаць яго папалам, пераслаць і ўпрыгожыць крэмам, павідлам, варэннем.

### Пясочны

*Мука (2 шклянкі), цукар (0,5 шклянкі), масла або маргарын (200 г), яйкі (2 шт.).*

Масла, цукар, яйкі расцерці драўлянай лапатачкай да атрымання аднароднай масы. Усыпаць муку і рукой замясіць цеста. Затым астудзіць яго і раскатаць у каржы. Выпякаць да гатоўнасці. Астуджаныя каржы перакласці крэмам, павідлам, джэмам – па жаданню, упрыгожыць бялковым крэмам, садавінай, арэхамі.

## КРЭМЫ

### Маслены

*Сметанковае масла (100 г), цукар (3 ст.лыжкі), вада (4 ст.лыжкі).*

Усыпаць у каструлю цукар, уліць ваду, размяшаць і пракіпяціць да поўнага растварэння цукру, пену зняць. Гатовы сіроп астудзіць да пакаёвай тэмпературы. Масла разагрэць да мяккасці і ўзбіваць. У час узбівання патроху падліваць цукровы сіроп. Узбіваць да атрымання пышнай масы.

Маслены крэм можна прыгатаваць на згушчаным малацэ, замяніўшы цукровы сіроп чатырма лыжкамі згушчанага малака.

### Заварны

Заварны крэм рыхтуюць у каструлі з тоўстым дном на невялікім агні, бо ён хутка падгарае.

Малако, вяршкі або вада (1 шклянка), цукар (4 ст.лыжкі), крухмал (1 чайная лыжка), яйкі (3 шт.). Замест цэлых яек можна браць удвоеную колькасць жаўткоў, крэм будзе смачнейшы.

Палажыць у эмаліраваную каструлю цукар, крухмал і яйкі, размяшаць, дадаць малако і паставіць на невялікі агонь. Памешваючы драўлянай лапатачкай, нагрэць амаль да кіпення, г.зн. да загусцення і з'яўлення пузыркоў. Зняць з агню і астудзіць.

## Парады касметолага

Маскі пры адчувальнай, раздражняльнай скуры. 1 сталовая лыжка аўсяных шматкоў заліваецца 3 сталовымі лыжкамі цёплага малака, смятанкі ці вады. Пасля таго, як шматкі набухнуць, кашыцу наносяць на твар. Маска з ільняных семян. 1 сталовая лыжка семян заліваецца 2 стаканамі гарачай вады, разварваецца, пасля цёплую масу наносяць на твар.



Настой з лісця мяты. 1 сталовая лыжка мяты заварваецца 1 стаканам вару, накрываецца на 30 мінут, працэджваецца, настоем праціраюць раздражняльныя часткі скуры.

Такім жа чынам можна прыгатаваць настой з нагаткоў (календулы), рамонкаў, шалфею, трыпутніку, пялёсткаў руж або шыпшыны (можна ў сумесі). Для атрымання ж травяной маскі за аснову бяруць бульбяную муку і разводзяць настоем любой травы. Маскі на твары трымаюць 15–20 хвілін, затым змываюць цёплай вадой.

Н.Істоміна,
урач-касметолаг.

# ЗАБЫТАЯ СЛАВА

## Кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі

**(Працяг. Пачатак у №№ 7, 8, 9.)**

Вайна цягнулася яшчэ 8 гадоў, але маскоўскія ваяводы ўжо не здолелі дамагчыся поспеху. Хоць, праўда, і Вялікае Княства не змагло вярнуць Смаленска. У 1522 годзе ў Маскве была падпісана дамова аб 5-гадовым замірэнні.

Мір ледзь-ледзь вытрымліваўся. З боку Маскоўскай дзяржавы ўжо праз два гады ўрываліся аддзелы ратнікаў і рабавалі край — каля Мазыра, Рэчыцы, Чачэрска, Крычава, з'яўляліся ажно за Дняпром. Вялікі князь Жыгімонт пратэставаў супраць сістэматычнага парушэння мяжы, еўрапейскія краіны таксама заклікалі Маскву да спакою.

Пасля смерці ваяўнічага Васіля III беларуска-літоўскае гаспадарства паспрабавала сілай забраць назад землі, захопленыя Маскоўшчынай у папярэдніх войнах. Яно ўльтыматыўна запатрабавала ад Масквы вярнуць Севершчыну і Смаленшчыну. Калі ж атрымала адказ, вялікі князь Жыгімонт у жніўні 1534 года скіраваў адно войска на Смаленск, другое — на северскія гарады. Але наяўных сілаў было замала, каб дамагчыся значнага поспеху. Лепш падрыхтаваная, мабілізаваўшая на вайну ці не ўвесь свой патэнцыял, Маскоўская дзяржава кінула на Беларусь тры арміі — ад Пскова, Смаленска і Стрададуба. Абмінуўшы гарады і замкі, яны дайшлі ажно да Браслава і Наваградка, рабуючы і спальваючы, забіваючы і хапаючы ў няволю. Тады на лета Вялікае Княства правяло новую наступальную кампанію: вызваліла Гомель, затым іншыя гарады, заняло ўсю Северскую зямлю. Але маскоўскія ваяводы ізноў ударылі па Беларусі — пустошылі Полаччыну, Падняпроўе. Войска Вялікага Княства пакінула занятыя землі і вярнулася, затрымаўшы за сабой адзін Гомель. У 1537 годзе дайшло да падпісання пяцігадовага замірэння. Толькі Гомель і быў вернуты Беларусі.

На гэты раз спакой на межах Беларусі з Маскоўскай дзяржавай пратрываў даўжэй — некалькі дзесяцігоддзяў. Тая перадышка стала зацішшам перад вялікай бурай. Маскоўшчына рыхтавалася да новых захопаў, і разам з еннай сілай раслі яе апетыты: цяпер нават Віленшчына ды Інфлянты ўжо абвяшчаліся "вотчынай" маскоўскіх уладароў.

У 1558 годзе першы маскоўскі цар Іван IV Грозны распачаў вайну з нямецкім ордэнам, каб заняць узбярэжжа Балтыйскага мора. Магістр ордэна Кетлер папрасіў дапамогі ў еўрапейскіх дзяржаў, аднак уступіцца за Інфлянты пагадзілася толькі Вялікае княства Літоўскае. Так дайшло да чарговай вайны паміж Маскоўшчынай і беларуска-літоўскай дзяржавай. Ужо на пачатку 1562 года царскія палкі спустошылі Мсціслаўшчыну, ваколіцы Шклова, Воршы, Віцебска, а праз год сам цар з 60-тысячным войскам прыйшоў і аблажыў Полацак. Маленькая полацкая залога два тыдні мужна адбівалася, але драўляны ўмацаваны гарэл, а падмогі чакаць не было адкуль: гетман Мікалай Радзівіл меў пад рукой толькі тры з паловай тысячы вершнікаў. 15 лютага Полацак мусіў здацца. Пад акупацыяй апынулася амаль уся Паўночная Беларусь. І хоць у студзені 1564 года на полі каля вёскі Іванск, што пад Улаю, 10-тысячны корпус М.Радзівіла дазвання разбіў 30-тысячнае маскоўскае войска, Вялікае княства Літоўскае заставалася ў складаным становішчы. Акупанты нішчылі занятыя землі, выводзілі ў палон насельніцтва (толькі з Полацка — больш за 11 тысяч), а выбіць іх з Беларусі ды іншых тэрыторый не хапала сілаў. Гэта было ці не галоўнай прычынай таго, што Вялікае княства Літоўскае пагадзілася аб'яднацца на канфедэратыўнай аснове з Польскім каралеўствам. Так, у 1569 годзе была ўтворана новая дзяржава — Рэч Паспалітая. Аб'яднаныя сілы за 1579-80 гады вызвалілі Полацак, выгналі акупантаў з усіх раёнаў Беларусі і прымусілі Івана Грознага падпісаць у 1582 годзе мірнае пагадненне, якое юрыдычна замацоўвала безвынікова сць агрэсіі. Так, за XVI стагоддзе ў беларускай гісторыі з прыкладна 40 ваенных гадоў каля 35 выпала на войны з Маскоўскай дзяржавай. І пад час амаль кожнай з іх тэатрам ваенных дзеянняў была Беларусь. Тым не менш народ не толькі вытрымаў гэтае жорсткае выпрабаванне на жыццяздольнасць, але яшчэ й высока ўзняў сваю гаспадарку ды культуру. На Беларусі з'явіліся першыя з усходнеславянскіх друкарняў, на старабеларускай мове друкаваўся Статут Вялікага Княства Літоўскага — адзін з найбольш дасканалых кодэксаў феадальнага права Еўропы, а вырабы беларускіх рамеснікаў карысталіся попытам далёка за межамі краіны.

Пачатак XVII стагоддзя азначыўся новым працяглым канфліктам з Маскоўскай дзяржавай. У 1604 годзе магнаты і шляхта Рэчы Паспалітай скарысталі падтрымку маскоўскага баярства да ажыццявілі паход на Маскву. Беларусь стала плацдармам ваенных дзеянняў. У 1607 годзе пачаўся другі паход на Маскву, а ў 1609 — кампанія па вяртанню Смаленска. Вярнуўшы гэты горад, войска Рэчы Паспалітай у 1610—1612 гадах валодала самой Масквой і прымусіла у 1618 годзе царскі ўрад падпісаць пагадненне аб замірэнні, паводле якога Вялікаму княству Літоўскаму былі вернуты Смаленск, Чарнігава-Северская зямля, гарады Дарагабуж, Мажайск, Вязьма. Так этнічна беларускія землі ўз'ядналіся з асноўнай тэрыторыяй краіны.

Але ўжо ў 1632 годзе маскоўскі ўрад ізноў парушыў замірэнне ды кінуў войска на Усходнюю і Паўночную Беларусь. Галоўнай мэтай гэтай вайны быў захоп Смаленска, але, скарыстаўшы зручны момант (у Рэчы Паспалітай якраз памёр манарх), царскія ваяводы паспелі пагаспадарыць і ў іншых раёнах Беларусі: захапілі Невель, Себеж, Сураж, Друю, Мсціслаў, Крычаў, спрабавалі здабыць Полацак. Невялічкая залога Смаленска (2—3 тысячы) гераічна вытрымлівала аблогу 32-тысячнай маскоўскай раці. Калі ў смаленцаў скончыліся боезапасы і хлеб, ім дапамагалі жыхары Магілёва, якія забяспечвалі абаронцаў порахам, кулямі, усім неабходным. А на восень 1633 года да Смаленска прыйшла нарэшце вайсковая дапамога. У хуткім часе ўся маскоўская армія была атачона і — капітулявала. Такая буйная параза царскіх ваявод клала канец вайне. Увесну 1634 года абодва бакі падпісалі замірэнне на 20 год, якое пакідала нязменнымі ўсходнія межы беларуска-літоўскай дзяржавы.

Задоўга да канца вызначаных 20 год замірэння царскі ўрад пачаў актыўную падрыхтоўку да вялікай інтэрвенцыі. За мяжой агромністымі партыямі закупалася зброя, вербаваліся вайсковыя кадры, у самой Маскоўскай дзяржаве ўтвараліся новыя палкі. І калі ў 1654 годзе царскія ваяводы рушылі з войскам на Беларусь з трох напрамкаў, абараніцца не было як: маскоўскай арміі, якая з украінскімі казакамі нічывала 100 тысяч, супрацьстаяла войска Вялікага Княства ў 10 тысяч ваяроў... Талент вялікага гетмана Я.Радзівіла даў яму магчымасць з гэтым маленькім корпусам нейкі час стрымліваць ворага і нават выйграць сутычкі, чыніць значную шкоду, аднак абараніць краіну ён не мог...

Займаючы горад за горадам, царскія войскі за першы год вайны захапілі беларускія землі па Дзвіну і Дняпро, а на наступны год акупавалі амаль усю Беларусь, захапілі сталіцу дзяржавы Вільню. Здаецца, ніколі больш краіна не перажывала такой трагедыі. Царскія ратнікі вялі вайну азіяцкімі метадамі: спальвалі гарады і вёскі, усе рэчы хапалі, людзей забівалі ці выводзілі ў палон. Цар Аляксей Міхайлавіч ставіў праграму масавага вываду людзей з Беларусі ў Маскоўскую дзяржаву, на дзяржаўны ўзровень. Планавалі набраць тут 300 тысяч чалавек. За палоннага была вызначана цана — некалькі рублёў. Іх прадавалі не толькі ў маскоўскіх гарадах, але і на азіяцкіх рынках. Заняволеных беларусаў маскоўскія баяры рабілі халопамі сваіх халопаў. Асобнай задачай царскага ўрада быў вывад беларускіх рамеснікаў.

Тыранія акупантаў, спусташэнні і здзек выклікалі вызваленчы рух на Беларусі. Сяляне і мяшчане з першых месяцаў вайны ўтваралі атрады самаабароны, якія імкнуліся ратаваць людзей ад вываду ў палон, абараняць свае вёскі і мястэчкі ад царскіх ратнікаў. Праз колькі год партызанскі рух узмацніўся. Вызваленчая барацьба кансалідавала насельніцтва. Партызанскія атрады складаліся адначасова і з сялян, і са шляхты. Нярэдка сяляне падтрымлівалі сваімі дзеяннямі рэгулярнае войска Вялікага Княства. Мясцовы люд, узброены ў асноўным віламі ды бердышамі, кантраляваў цэлыя паветы і пасяхова змагаўся з карным войскам цара.

З 1660 года харугвы рэгулярнай арміі Рэчы Паспалітай разам з партызанамі пачалі крок за крокам выганяць акупантаў з Беларусі. Найбольш значнымі пераможнымі бітвамі былі разгром вялізнага войска маскоўскага ваяводы Хаванскага каля Ляхавіч і бітва з арміяй Далгарукага пад Крычавам у 1660 годзе, а праз год — разгром таго ж Хаванскага пад Кушлікамі на Полаччыне. Гэта стала пераломным этапам вайны. Жыхарства Беларусі, здавалася, аб'яднана адной мэтай — хутчэй выгнаць з краіны акупантаў. Мяшчане шэрагу гарадоў (Дзісна, Магілёў), Себеж, Гомель і інш. уздымалі паўстанні і без дапамогі войска знішчалі ці выганялі маскоўскія залогі. Царскі ўрад неўзабаве прапанаваў хутчэй падпісаць замірэнне, але Вялікае княства Літоўскае дамагалася вызвалення ўсіх сваіх тэрыторый. Пагроза з боку Турцыі і Крымскага ханства паскорыла заканчэнне вайны. Замірэнне, падпісанае ў студзені 1667 года ў Андрусаве паміж Мсціславам і Смаленскам, адлюстравала недавяршанасць канфлікту. Маскоўская дзяржава не змагла ўтрымаць усяго захопленага, а Рэч Паспалітая не здолела дамагчыся поўнай перамогі.

Для Беларусі гэтае трынаццацігадовае бойшча стала нацыянальнай трагедыяй. Загінула ці было выведзена больш як палова насельніцтва, гарады і вёскі ператвораны ў папялішчы. Разбураную гаспадарку і дэмаграфічныя страты не ўдалося аднавіць і за стагоддзе. Аслабленая краіна так і не здолела выйсці з таго заняпаду. Знутры яе раз'ядалі рэлігійныя канфлікты, паланізацыя, а звонку цікавау ды чакаў моманту, каб ухапіць здабычу, драпежны сусед — Расейская дзяржава.

### VII

XVIII стагоддзе ў гісторыі Беларусі ніяк не назавеш мірным ці хоць адносна спакойным. Хутчэй наадварот. Пачалося яно з Паўночнай вайны (1700—1721 гг.), у якой на беларускай зямлі зводзілі свае рахункі Расея і Швецыя. Адначасова разгараецца хатняя, "магнацкая вайна" паміж Сапегамі, Агінскімі, Вішнявецкімі і Радзівіламі, што дасталася ў спадчыну нашаму краю ад XVII ст. Сапегі шукалі падтрымкі ў шведскага караля Карла XII, а прадстаўнікі антысапегаўскай шляхецкай партыі (Агінскія і Вішнявецкія) дамаўляліся з Пятром I. Фактычна прыклад палітычнага нядбальства паказаў усім сам кароль Аўгуст II "Моцны". Ён кідаўся ў абдымкі то да Пятра I, то, здраджваючы яму, да Карла XII. Прычым, спрабуючы заключыць сепаратны мір са Швецыяй, ён не спыніўся нават перад магчымасцю частковага падзелу РП.

У рэшце рэшт у маі 1704 г. ствараецца Сандамірская канфедэрацыя прыхільнікаў Аўгуста II. Яна вырашае заключыць саюз з Расіяй і аб'явіць вайну Швецыі. Праз 2 месяцы ўзнікае другая канфедэрацыя, якая абвяшчае "свайго" караля, Станіслава Ляшчынскага, стаўленіка Карла XII. Чарговая канфрантацыя вядзе да трагедыі: прыцягнення знешніх сіл для вырашэння ўнутраных супярэчнасцей.

Восенню 1704 г. на Беларусь уступае амаль 60-тысячнае расейскае войска пад камандаваннем Рэпніна. Шведы пераходзяць Нёман, разбураюць ваколіцы Гародні. Па беларускай зямлі пачынае гуляць смерч шведскага і расейскага спусташэння. Рэч Паспалітая сапраўды ператвараецца ў заезны двор і карчму для іншаземных войскаў.

"Магнацкія войны" не сціхаюць і на працягу 1710—1763 гг. Асабліва абвастрылася супрацьстаянне паміж Радзівіламі і Чартарыскімі пад час выбараў новага караля пасля смерці ў 1763 г. сына Аўгуста "Моцнага" — Аўгуста III. Яно ізноў прывяло на беларускія землі расейскія войскі, а з імі і спусташэнні (былі разбураны Нясвіж і Слуцк — радзівілаўскія рэзідэнцыі).

Ужо ў XVII ст. стала відавочным, што пашырэнне шляхецкай дэмакратыі пры пасабленні цэнтральнай каралеўскай улады вядзе да бязладдзя і разгулу анархіі ў РП. Шляхецкае права "Liberum veto", па якому нават аднаму дэпутату дазвалялася сарваць сейм, практычна паралізоўвала дзейнасць гэтага вышэйшага органа ўлады. А скваплівыя суседзі пільна ахоўвалі непарадак у РП. У расейска-прускім дагаворы 1764 г. меўся сакрэтны артыкул, паводле якога саюзнікі абавязваліся захоўваць у РП шляхецкія свабоды "вольныя выбары караля" і "Liberum veto". Менавіта пад такімі ўмовамі яны з дапамогай штыкоў дабіваюцца ўзвядзення на трон у 1764 г. свайго стаўленіка Станіслава-Аўгуста Панятоўскага.

**(Працяг будзе).**



*Беларускі крылаты гусар XVII ст.*

